# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

28 лютага 2020 года №9 (1296)

18+








старонкі 20-21

Маладзечанка Марыя Такарэвіч чакае першае дзіця. Як адзначыла жанчына, паўдзельнічаць у кангрэсе было карысна і цікава. Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Маладзечанцам распавялі пра лёгкія роды і спакойнае мацярынства

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





## Можа быць мала камароў, але шмат караедаў. Як адаб'ецца на прыродзе цёплая зіма

старонка 2

## У ільянскім каледжы размеркавалі выпускнікоў

ВІЛЕЙКА

20 лютага ў Ільянскім дзяржаўным аграрным каледжы правялі размеркаванне выпускнікоў. Напярэдадні былі тэлефонныя званкі ад сельскагаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў з прапановамі працаўладкавання.

Прадстаўнікі некаторых наведалі каледж у Ілы, пазнаёмілі выпускнікоў з умовамі працы, пражывання, прыкладным заробкам.

У каледжы паведамляюць, што на кожнага выпускніка па спецыяльнасці «ветэрынарная медыцына» – каля пяці вакансій, па спецыяльнасці «заатэхнія» – каля васьмі.

Пры размеркаванні ўлічвалі бал паспяховасці кожнага навучэнца, сямейнае становішча, стан здароўя, пажаданні саміх выпускнікоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Масленіцу зладзяць у гарадскім парку

ВІЛЕЙКА

1 сакавіка, у нядзелю, у 12:00 у гарадскім парку пачнецца Масленіца.

Наведнікаў чакаюць канцэртныя нумары ў выкананні калектываў Палаца культуры, карагоды, святочны гандаль, бліны.

Нагадаем, што летась Масленіцу ў Вілейцы таксама зладзілі ў гарадскім парку. Адзначыць традыцыйна ў Ніжнім Парку на беразе Віліі перашкодзіла дажджлівае надвор'е.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вучні школ рэгіёна перамаглі ў абласным конкурсе «ТэхнаІнтэлект»

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Днямі падвялі вынікі абласнога этапу конкурсу «ТэхнаІнтэлект». У 12 секцыях прадставілі больш за 170 даследчых прац. Дыпломамі адзначылі навучэнцаў з Ілы і Вілейкі. А найбольш пераможцаў – з Маладзечна.

У намінацыі «Радыёэлектроніка» трэцяе месца заняў **Мікіта Рабічаў** з Радашкавіцкай сярэдняй школы. Педагог – **Павел Янчаўскас**.

У намінацыі «Мультымедыйныя тэхналогіі» трэцяе месца ў тандэма з вілейскай гімназіі «Логас» **Івана Чычына** і **Уладзіміра Барысевіча**. Педагог – **Яўген Мароз**.

У намінацыі «Авіяцыя, касманаўтыка і аэракасмічная тэхніка» другое месца ў **Амелешкі Аляксандры** – вучаніцы Маладзечанскай спецыяльнай школы-інтэрната. Кіраўнік – **Фёдар Філіповіч**.

У намінацыі «Архітэктурны малюнак» трэба было прадставіць творчую працу «Архітэктура, мілая сэрцу». Тут другое месца заняла навучэнка Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа **Аліна Міхневіч**. Кіраўнік – **Наталля Таўстыка**.

На трэцім месцы ў гэтай жа намінацыі **Сяргей Шупляк** – вучань **Рыгора Мяжуева** з Маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў.

Чатыры пераможцы з намінацыі «Кампазіцыя» таксама выхаванцы Рыгора Мяжуева з гімназіі-каледжа. Другое месца тут заняла **Лізавета Жалабковіч**. А на трэцім – **Вікторыя Сільвановіч**, **Багдан Бурак** і **Дыяна Пільвінская**. Удзельнікі прадставілі творчую працу на тэму «Уласны жылы дом беларускага архітэктара».

**Аддзел інфармацыі.**

## На вуліцах з'явяцца святлодыёдныя энергаашчаджальныя ліхтары

АШМЯНЫ

У Ашмянскім райвыканкаме прайшло пасяджэнне раённай грамадскай арганізацыі «Савет дырэктараў» і кіраўнікоў рэспубліканскага праекта «Далучэнне грамадскасці ў экалагічны маніторынг і паляпшэнне кіравання ахоўвай навакольнага асяроддзя на мясцовым узроўні», дзе ішла гаворка аб усталяванні ў Ашмянах больш эканомнага і экалагічнага асвятлення.

Праект «Далучэнне грамадскасці ў экалагічны маніторынг і паляпшэнне кіравання аховай навакольнага асяроддзя на мясцовым узроўні» фінансуецца Еўрапейскім саюзам і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН у партнёрстве з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь.

Праект атрымлівае сваю рэалізацыю ў розных кутках краіны, на яго рэалізацыю плануецца выдаткаваць тры мільёны 500 тысяч еўра. Не абышоў бокам ён і Ашмянскі раён.

**Паводле osh.by.**

# Можа быць мала камароў, але шмат караедаў

### Як адаб'ецца на прыродзе рэкордна цёплая зіма

**Як паведамляюць сіноптыкі, кліматычная зіма сёлета так і не надышла. А вось вясна надыходзіць.**

І доказ гэтаму – фотаздымкі раслін, на якіх з'яўляюцца пупышкі і нават кветкі.

На клумбах у рэгіёне вылазяць півоні, зацвітаюць прымулы і медуніца, з'яўляюцца пупышкі на бэзе і алычы, а на вербах – коцікі.

**Цёплая зіма. Добра ці дрэнна?**

У сацыяльных сетках многія нашы чытачы пішуць пра тое, як ім падабаецца такая цёплая зіма.

А вось эколагі з Цэнтра экалагічных рашэнняў лічаць, што гэта ўсё ж больш адмоўная з'ява, чым станоўчая.

Па словах спецыялістаў, сёлета, хутчэй за ўсё, не выведзецца шмат насякомых. Гэтай зімой снегу амаль не было. А для размнажэння насякомым патрэбныя невялічкія вадаёмы і лужыны. Сітуацыю могуць выратаваць дажджы. Калі ж будзе суха, то насякомых будзе мала. Адпаведна не будзе хапаць ежы птушкам.

**У лесе амаль не будзе камароў. Але можа павялічыцца колькасць караедаў.**

Марозныя зімы звычайна стрымліваюць шкодніка. А сёлета маразоў амаль не было.



Вярбу ў сярэдзіне лютага сфатаграфаваў маладзечанец Уладзімір Гвозд.

**Гарыць трава, птушкі не адлятаюць ці вяртаюцца раней**

Раней пачаўся сезон прыродных пажараў. У Беларусі іх фіксуюць у канцы сакавіка. Сёлета пажары пачаліся ў сярэдзіне лютага. Як паведамілі ў Вілейскім РАНС, адзін выпадак гарэння сухой травы зафіксавалі ўжо і на Вілейшчыне. У Маладзечанскім раёне – пакуль няма.

Рэкордна цёплая зіма паўплывала на птушак. Спецыялістам з Цэнтра экалагічных рашэнняў арнітолагі паведамілі, што значна раней пачалі вяртацца жураўлі. А цецерукі затакавалі раней на месяц. Вадаёмы не замярзаюць, застаюцца зімаваць некаторыя вадаплаўныя птушкі. Ужо не першы год можна заўважыць зімой лебедзяў на вадаёмах Вілейшчыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Памерла Фаіна Анасовіч

### Яна адзіная, хто выратаваўся з вогненнай вёскі Боркі ў маі 1943 года

ВІЛЕЙКА

**Фаіна Сяргееўна Анасовіч памерла на 89-м годзе 26 лютага ў вёсцы Рабунь на Вілейшчыне, дзе і жыла.**

Калі 4 мая 1943 года фашысты спалілі родную вёску Боркі на Вілейшчыне, дзе жыла Фаіна Анасовіч (Кучка) з бацькамі, дзявчынцы ішоў дванаццаты год. Яна адзіная з амаль ста жыхароў Борак засталася жывой пасля таго, як ворагі спалілі вёску. У той дзень дзяўчынка пасвіла свойскую жывёлу.

Вёска Боркі, як і суседняя Любча, не адрадзілася. Там цяпер стаяць помнікі.

«Рэгіянальная газета», наш пазаштатны аўтар і актывіст з Чысці **Алесь Раткевіч**, грамадскасць Хаценчыцкага сельсавета выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім Фаіны Анасовіч з прычыны яе смерці.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота mlyn.by

Фаіна Анасовіч.

# У Маладзечне правялі форум «ІТ-краіна»

**22 лютага ў Маладзечне правялі форум, на якім распавялі пра ўдзел маладзечанцаў у праекце «ІТ-краіна».**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Планують укараніць інфармацыйныя тэхналогіі ў самыя розныя сферы.

Па меркаванні каардынатараў праекта, ён паспрыяе эканамічнаму росту. Пра тое, як лічбавізацыя будзе ўплываць на кожнага з нас і як знайсці сваё месца ў новым свеце, размаўлялі на форуме.

У межах праграмы развіваецца бізнес-супольнасць.

Куратар праекта па Маладзечанскім раёне **Уладзімір Сівуха** падзяліўся меркаваннем, што інфармацыйныя тэхналогіі павінны прыйсці ў самыя розныя сферы. А маладзечанцы як адны з першых удзельнікаў праекта змогуць пасля вучыць іншых удзельнікаў праграмы.

У Маладзечне ўжо нямала ІТ-спецыялістаў, якія выконваюць задачы рознай складанасці. 3D-дызайнер **Сонэр Карагёз** паказаў, якія праекты ён ужо ўвасобіў. Анімiраваныя сцэны, сімуляцыі, мадэляванне пад 3D-прынтар або станкі з лічбавым праграмным кіраваннем – усё гэта пасля выкарыстоўваецца ў гульнях, фільмах, рэкламе.

Будынак не ўзведзены, але трэба паказаць, якім будзе? Зрабіць тлумачальнае відэа для Ютуба? Усё гэта Сонэр навучыўся рабіць з нуля сам, без настаўнікаў і навучальных устаноў.

Праграміст **Андрэй Грыбаедаў** расказаў пра тое, як у Маладзечне можна пабудаваць міні-парк высокіх тэхналогій. У ім будуць працаваць як у офісе, так і на аддаленасці.

У ІТ-кампаніях існуе дакладнае размеркаванне роляў. Гэта дазваляе кожнаму факусіравацца на вузкіх задачах, а каманда агулам становіцца моцнай і дасведчанай.

На сустрэчы абмеркавалі пытанні заканадаўства, паслаблення падаткаў, выбару запатрабаванай прафесіі і тое, як можна навучыцца новаму.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.02 | 27.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.2040 | **2.2378** |
| Еўра | 2.3805 | **2.4334** |
| Злоты, 10 | 5.5701 | **5.6537** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4638 | **3.4137** |
| Грыўня, 100 | 8.9836 | **9.0822** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 19.02 | 26.02 |
| Еўра | 2.3300/2.4050 | **2.3700/2.4500** |
| Долар ЗША | 2.1700/2.2400 | **2.1900/2.2800** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.02 | 26.02 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **22,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,20** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,12** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 5,90 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,40 | **1,60** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,40 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **5,90** |
| Перац, 1 кг | 7,30 | **7,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 8,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **10,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Чарнаслiў б/к, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мужчыну падазраюць у тым, што ён забіў маленькага сына сваёй сужытніцы

МЯДЗЕЛ

У верасні мінулага года ў міліцыю паведамілі пра тое, што ў прыватным доме ў адной з вёсак Мядзельскага раёна знайшлі цела аднагадовага хлопчыка. Следча-аператыўная група ўстанавіла крымінальны характар яго смерці.

Згодна з матэрыяламі справы, у дзень здарэння, пакуль маці была ў радзільні, аднагадовы хлопчык знаходзіўся з яе 21-гадовым сужытнікам. Устанавілі, што п'яны мужчына збіў хлопчыка, таму што той плакаў.

– Ён біў дзіця рукамі і нагамі па галаве і па розных частках цела. Калі ўбачыў, што дзіця не дыхае, вырашыў схаваць злачынства, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Цела дзіцяці ў сумцы мужчына перавёз у пусты дом у Мядзельскім раёне. Праз некалькі дзён вярнулася маці хлопчыка з радзільні. Яна пачала шукаць дзіця. Першапачаткова мужчына растлумачыў, што хлопчык у знаёмых, а потым прызнаўся, дзе знаходзіцца цела дзіцяці.

Мужчыну абвінавачваюць па частцы другой артыкула 139 Крымінальнага кодэкса – забойства заведама малалетняга ў бездапаможным стане, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю. Мужчыну ўзялі пад варту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Расследавалі крымінальную справу пра аварыю з удзелам маршруткі

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося 9 жніўня мінулага года ў Іўеўскім раёне.

27-гадовы кіроўца мікраўтобуса перавозіў пасажыраў па маршруце «Смаргонь-Гродна». Каля 21:50 маршрутка сутыкнулася з аўтапоездам ДАФ. Ён якраз спыніўся для развароту на скрыжаванні.

У гэты момант у мікраўтобусе было дзесяць пасажыраў, якія не былі прышпілены рамянямі бяспекі. Трое з іх атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Паводле матэрыялаў справы, кіроўца меў праблемы са зрокам. Медкамісія дазволіла кіраваць транспартам толькі ў акулярах. На момант аварыі мужчына меў пры сабе акуляры, але кіраваў без іх.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Нецвярозы кіроўца на бусе з'ехаў у кювет і перакуліўся на бок

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў сераду, 19 лютага, у Вілейцы на вуліцы Незалежнасці каля васьмі вечара.

57-гадовы маладзечанец ехаў на аўто «Форд-Транзіт». Пры левым павароце мужчына не справіўся з кіраваннем. Бус з'ехаў у кювет і лёг на бок, распавялі ў Вілейскім РАУС.

Спецыяльная працэдура паказала, што мужчына быў нецвярозы. У дачыненні да кіроўцы склалі пратаколы. Яму пагражае штраф ад 1 350 да 2 700 рублёў з пазбаўленнем права кіраваць аўтамабілем на тры гады.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Залезлі ў дом, звезлі гаспадара ў лес і збілі

ВАЛОЖЫН

Крымінальны інцыдэнт здарыўся ў Валожынскім раёне.

Некалькі чалавек прыехалі з Магілёўскай вобласці ў Івянец, праніклі ў дом да 32-гадовага мясцовага жыхара, сілай вывезлі яго ў лес і збілі. Такім спосабам кампанія планавала прымусіць пацярпелага вярнуць грашовы доўг.

Аднак у збітага мужчыны грошай не аказалася. Праваахоўнікі дапускаюць, што крыўдзіцелі выдумалі доўг. Пацярпелы расказаў, што ён сапраўды знаёмы з адным з тых, хто нападаў, і напярэдадні прасіў у яго 200 долараў ЗША. Той пагадзіўся і, нібыта, перавёў грошы на названы пацярпелым рахунак, аднак па нейкіх прычынах сума на балансе так і не з'явілася. Менавіта таму ў вяртанні было адмоўлена.

Пацярпелага вазілі па навакольных лясах і збівалі. Калі кампанія зразумела, што забраць грошы не атрымаецца, ахвяру адпусцілі. Пры першай жа магчымасці мужчына распавёў аб тым, што здарылася, супрацоўнікам міліцыі. Пяцярых падазраваных, адзін з якіх раней судзімы, затрымалі па месцы жыхарства пры сілавой падтрымцы АМАП. Распачатая крымінальная справа па факце незаконнага пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Следчыя працуюць на будоўлі, дзе загінуў маладзечанец.

# Маладзечанец на будоўлі зваліўся з балкона пятага паверха

### Мужчына загінуў на месцы

МАЛАДЗЕЧНА

**24 лютага, у панядзелак, на будоўлі жылога комплексу ў Мінскім раёне загінуў маладзечанец, які там працаваў.**

Пры выкананні будаўнічых работ мужчына зваліўся з балкона пятага паверха. Ад атрыманых пашкоджанняў 40-гадовы жыхар Маладзечна памёр на месцы.

Як расказалі ва УСК па Мінскай вобласці, следча-аператыўная група агледзела месца здарэння. Спецыялісты зафіксавалі карціну здарэння, апыталі відавочцаў, правялі іншыя неадкладныя следчыя дзеянні. Ячшэ канфіскавалі дакументы, якія рэгламентуюць правілы аховы працы, тэхнікі бяспекі пры выкананні будаўніча-мантажных работ на вышыні і якія тычацца працоўных абавязкаў. Апытваюць работнікаў, службовых і іншых адказных асоб. Прызначылі экспертызы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жанчына выпаўзла з палаючага дома

МЯДЗЕЛ

Пажар здарыўся каля 18:30 у вёсцы Дзягілі Слабадскога сельсавета. Паведамлялі, што гарыць жылы дом на вуліцы Цэнтральнай. Дом быў драўляны, электрычнасць праведзеная.

– Падчас пажару гаспадар быў на працы. Дома была яго 60-гадовая сужытніца. Жанчына сама выпаўзла з дома. Але атрымала апёкі галавы, шыі, тулава, кісці. Усяго – 22% апёкаў. З дыягназамі апёкавая хвароба і апёкавы шок пацярпелую забралі ў Мядзельскую ЦРБ. Цяпер яна ў рэанімацыі ў цяжкім стане, – расказала карэспандэнту інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

Падчас пажару агонь знішчыў дах, часткова маёмасць, закураныя сцены. Разглядаюць дзве версіі здарэння: неасцярожнасць пры курэнні або няспраўнасць электрапрыбораў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мікрааўтобус не прапусціў БМВ: пацярпелі чатыры чалавекі

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

У нядзелю, 23 лютага, каля 20:30 у Маладзечне адбылося ДТЗ.

Кіроўца мікрааўтобуса «Фольксваген-Транспарцёр» на скрыжаванні вуліц Вялікі Гасцінец, Суміцкага і Таміліна пры павароце налева не саступіў дарогу аўтамабілю БМВ, які рухаўся ў сустрэчным накірунку на дазваляльны сігнал святлафора.

У бальніцу дастаўлены кіроўца БМВ, мясцовы жыхар, а таксама кіроўца і двое пасажыраў «Фольксвагена»: грамадзяне Ірландыі, зарэгістраваныя ў Вілейцы.

**Паводле прэс-службы МУС.**

## Вецер сарваў дах з цялятніка

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта 23 лютага каля дзесяці гадзін паведаміў маладзечанскім выратавальнікам намеснік дырэктара прадпрыемства «Відзеўшчына».

З даху цялятніка, што знаходзіцца ў аграгарадку Відзеўшчына, што ў Красненскім сельсавеце, вецер сарваў 70 лістоў шыферу і 40 квадратных метраў абрашоткі, паведамілі ў Маладзечанскім ГРАНС. Пацярпелых няма.

Па дадзеных Валожынскай метэастанцыі, ад вечара 22 лютага да раніцы 23 лютага зафіксавалі парывы ветру да 15 метраў у секунду.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кіроўца збіў пенсіянерку. Жанчына з пераломамі – у бальніцы

АШМЯНЫ

18 лютага каля 21:30 пад коламі аўтамабіля «Шкода» аказалася мясцовая жыхарка.

40-гадовы кіроўца рухаўся па вуліцы Савецкай і пры з'ездзе на вуліцу Зарэчную наехаў на жанчыну, якая пераходзіла дарогу па пешаходным пераходзе. Пенсіянерка была без флікера.

У выніку наезду жанчына атрымала пераломы, з якімі яе даставілі ў бальніцу.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Паводле osh.by.**

# Дыван-дыванок, упрыгож наш куток

## У садку №8 адзначылі Дзень роднай мовы

СМАРГОНЬ

**Кожны год да святкавання Дня роднай мовы ў нашай беларускамоўнай групе мы падыходзім адказна і крэатыўна.**

Сёлета, улічваючы ўзрост выхаванцаў, якім толькі тры-чатыры гады, бацькі разам з выхавальнікам стварылі прадметнае асяроддзе для хаткі лялек. Зрабілі гэта, каб паказваць дзецям побыт нашых продкаў – беларусаў. Адметнасцю ўнутранага ўбранства хаткі сталі маляваны дыван, зроблены па ўзору малявальнак **Ніны Бохан**, і вязаныя кручком дыван і ходнік.

Акрамя таго, у гардэробе групы стварылі сапраўдную мастацкую выставу малюнкаў маляваных дываноў Ніны Бохан. Бацькі і дзеці пазнаёміліся з працамі мастачкі, якая некаторы час жыла і працавала на Смаргоншчыне і павінна заняць сваё пачэснае месца сярод славутых людзей рэгіёна. Малюнкі дываноў стварыла маці аднаго з выхаванцаў нашай групы. Да кожнага малюнка прыдумалі казачныя гісторыі, якія адлюстроўваюць светапогляд нашых продкаў, іх філасофію жыцця.

Усе гісторыі надрукавалі ў невялікай кнізе з прыгожымі карцінкамі. Пры складанні тэматычных казак-гісторый улічваўся слоўнікавы і паняційны запас маленькіх слухачоў. А каб замацаваць пачутае і ўбачанае – з копій малявaнак для дзяцей зрабілі гульнявыя пазлы.

**Малыя і самі з задавальненнем спрабавалі зрабіць маляваныя дыванкі для любімых мамачак з дапамогай штампікаў, набытых у краме.**

Святкаванне Дня роднай мовы для нашай групы стала нагодай не толькі ўшанаваць беларускую мову, але і культуру сваёй малой радзімы, а таксама бліжэй пазнаёміцца з мастацтвам Ніны Бохан.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ, выхавальнік дашкольнай адукацыі ясляў-сада №8 горада Смаргоні. Фота аўтара.**



Дзеці ствараюць дыванкі.




# «Хищения электроэнергии бесследно не пройдут»

## Беседуем с начальником отдела контроля и анализа потерь электроэнергии филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» Ольгой Мястовской

**– Ольга Александровна, имеют ли право работники филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» проводить работу непосредственно с потребителями электроэнергии по контролю за соблюдением Правил электроснабжения?**

– Зачастую среди потребителей электроэнергии бытует мнение о том, что представителями энергоснабжающей организации являются лишь работники филиала «Энергосбыт» и персонал филиала электрических сетей не имеет права доступа к приборам учета электроэнергии, а также электропроводке потребителя.

Согласно Правил электроснабжения, утвержденных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 17.10.2011 № 1394, энергоснабжающей организацией является юридическое лицо Республики Беларусь независимо от организационно-правовой формы и формы собственности, осуществляющее продажу потребителям произведенной или купленной электрической энергии и имеющее в собственности, хозяйственном ведении или оперативном управлении электрические сети.

Персонал филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго», имеющего в собственности и оперативном управлении электрические сети, а также энергоисточники, непосредственно является представителем энергоснабжающей организации.

Также следует отметить, что в целях обеспечения надежной, экономичной и безопасной эксплуатации электроустановок абоненты обязаны: обеспечить беспрепятственный доступ уполномоченных представителей энергоснабжающей организации и (или) органов госэнергонадзора при предъявлении служебного удостоверения к электрической сети, электроустановкам, в том числе блок-станции, и средствам расчетного учета для контроля за выполнением Правил электроснабжения.

**– Как проводится подготовка к рейдовой работе и выбор контролируемых потребителей электроэнергии?**

– Персоналом филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» регулярно проводится рейдовая работа по контролю за соблюдением Правил электроснабжения и договорных обязательств потребителями электроэнергии.

С помощью специализированного программного обеспечения выполняются расчеты небаланса электроэнергии (с учетом технических потерь по данному участку сети и оплаченного количества электроэнергии) по линиям 10 кВ, а также по групповым учетам (счетчикам электроэнергии), установленным в районах индивидуальной жилой застройки. Также ежемесячно выполняется сравнительный анализ потребления электроэнергии абонентами в сравнении с предыдущими месяцами, а также сравнение потребления аналогичных периодов текущего и прошедшего годов.

Далее проводится анализ полученных результатов, определяются потребители электроэнергии, требующие дополнительного контроля со стороны энергоснабжающей организации.

**– А каким образом организована рейдовая работа по контролю за соблюдением Правил электроснабжения?**

– В филиале действует специализированная бригада, которая укомплектована транспортом, средствами связи, необходимыми приборами и приспособлениями для выявления нарушений в работе средств учета, а также фото– и видеокамерой для фиксации фактов хищения электроэнергии.

Кроме того персоналом Молодечненского СРЭС, Воложинского РЭС, Молодечненского ГРЭС, Вилейского РЭС и Мядельского РЭС филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» в ходе выполнения работ по ремонту и обслуживанию электрооборудования проводится проверка работы приборов учета электроэнергии и снятие контрольных показаний.

В случаях выявления у потребителей электроэнергии нарушений договорных условий электроснабжения составляются акты о самовольном (бездоговорном), безучетном потреблении электрической энергии.

**– Что грозит потребителю в случае выявления у него факта хищения электроэнергии и какие последствия предусмотрены за нарушение законодательства?**

– В случае выявления незаконного потребления электрической энергии, абоненту придется заплатить в несколько десятков раз больше, чем, если бы оплата производилась по показаниям прибора учета. Кроме того, по данным видам нарушений предусмотрена также и административная ответственность по статье 20.10 КоАП РБ с наложением штрафа, который может достигать 5-кратного размера от суммы причиненного ущерба. Законом также предусмотрено полное или частичное ограничение электроснабжения объекта нарушителя до тех пор, пока полностью не будет возмещен долг за всю похищенную электроэнергию.

Граждане, которые владеют какой-либо информацией о хищениях электрической энергии, могут анонимно сообщить об этом в филиал «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» по адресу: г. Молодечно, ул. Дроздовича, д. 27 либо по телефону 72-62-60.



**Работа филиала «Молодечненские электрические сети» РУП «Минскэнерго» по выявлению случаев хищения электрической энергии. На фото – мастер отдела контроля и анализа потерь электроэнергии Д. И. Шейко.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Вольва S60. Т, (8-029) 3295149 Вэлком.

• Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, у рабочым стане. Т. (8-029) 6080111.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Форд-Эскорт, 1997 г.в., на запчасткі. Т. (8-01771) 32137, (8-029) 6232305.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9. Т. (8-029) 5702352 МТС.

• 1-пакаёвы драўляны дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 25 сотак зямлі. Плошча дома – 37 кв. м. На тэрыторыі знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод. Магчымы падвод газу. Побач вакзал і аўтобусны прыпынак. Т. (8-029) 1056204.

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Ашмянах у цэнтры горада. Нядорага. Т. (8-029) 3794607.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• Дом для дачы, базы адпачынку, пчалярства ў вёсцы Астравы Вілейскага раёна. Т. (8-029) 159 50 99.

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вуліцы Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у Асіпавічах Вілейскага раёна каля возера. Т. (8-01771) 28717.

• Дом у Вілейцы, раён «Зеніта», 55 кв.м. Т. (8-029) 7610785.

• Дом у Маладзечне, драўляны, 72 кв. м, вада, газ, электрычнасць, мясцовая каналізацыя, 11 сотак, 53 000 рублёў, торг магчымы. Т. (8-029) 7562992.*

• Дом у Маладзечне па вул. Велікасельскай. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом у Мікольцах Мядзельскага раёна, 90 кв.м, 30 сотак, побач газ, 500 м ад в. Нарач, Мястра. Т. (8-029) 5546406.*

• Дом у Снежкава, участак 13 сотак, добраўпарадкаваны. У доме вада. Т. (8-044) 4562653.

• Кватэра ў аграгарадку Ерхі Вілейскага раёна, агульная плошча 69 кв.м, з выгадамі, ацяпленне паравое (кацёл), 1 паверх, з рамонтам, уцепленая знешне. Т. МТС (8-029) 5094911 Людміла.

• Участак. Вілейка, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-029) 1825368, (8-044) 7133606.*

### МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў к.п. Нарач на Маладзечна. Т.(8-044) 4901101.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

• Кватэру ў 6-м мікраraёне Маладзечна. Т. МТС (8-029) 2103019.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахавання. ІП Высоцкі А.С. УНП 692245001 Т. (8-029) 7357499.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота/надпіс на кубак/майку, 9 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442, Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25, прычэп, культыватар, плуг. Т. (8-044) 4817147.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына Candy б/у, але як новая. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Шафа кніжная «Давіль» «Маладзечнамэблі». Новая. Белая. Т. (8-029) 3854030.*

**Музінструмент**

• Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казёл 10 месяцаў і козлік з козачкай 1,5 месяца. Помесь зааненскай і англа-нубійскай парод. Т. (8-029) 3597375 Таццяна.*

• Шчаняты ўсходнееўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Стужачна-пільны станок вытворчасці Латвія; заточны-разводны станок. Пагрузчык вытворчасці Львоў. Т. (8-029) 7091266.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць» па Ашмянскім, Астравецкім, Смаргонскім, Валожынскім, Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім раёнах. Т. (8-029) 5019550.*


Фота brammels.com

**Падатковая інспекцыя тлумачыць, якім чынам можна правяраць расійскі абутак.**

# Як праверыць расійскі абутак

**Пра дакументы, якія пацвярджаюць, што купілі абутак.**

**1. Сярод дакументаў, што пацвярджаюць куплю абутку на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі за наяўныя, наступныя:**

Касавы чэк, які выдаецца беларускаму індывідуальнаму прадпрымальніку-пакупніку расійскім прадаўцом. Ён павінны змяшчаць устаноўленыя заканадаўствам Расійскай Федэрацыі звесткі, у тым ліку рэквізіты беларускага індывідуальнага прадпрымальніка, інфармацыя пра якога ёсць у інфармацыйнай сістэме Федэральнай падатковай службы Расійскай Федэрацыі, найменне і колькасць тавараў.

Калі касавы чэк, інфармацыя пра які ёсць у інфармацыйнай сістэме Федэральнай падатковай службы Расійскай Федэрацыі, не ўтрымлівае запоўненых рэквізіт з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку беларускага індывідуальнага прадпрымальніка-пакупніка і (або) найменне і колькасць тавараў, факт набыцця тавару беларускім індывідуальным прадпрымальнікам павінны быць дадаткова пацверджаны выпісаным расійскім прадаўцом тавараў дакументам. У ім разам з іншай устаноўленай заканадаўствам інфармацыяй павінны ўтрымлівацца названыя звесткі. Такімі дакументамі могуць быць таварны чэк, універсальны перадатачны дакумент, таварная накладная і іншыя.

Дакладнасць касавага чэка можна праверыць на сайце Федэральнай падатковай службы Расійскай Федэрацыі **https://kkt-online.nalog.ru** альбо з дапамогай мабільнага дадатку «Праверка касавага чэка», сцягнуць які можна ў App Store або Google Play.

У адпаведнасці з распараджэннем Урада Расійскай Федэрацыі ад 28 красавіка 2018 №792-р і пастановай Урада Расійскай Федэрацыі ад 5 ліпеня 2019 №224 «Аб зацвярджэнні Правілаў маркіроўкі абутковых тавараў сродкамі ідэнтыфікацыі і асаблівасцях укаранення дзяржаўнай інфармацыйнай сістэмы маніторынгу за абаротам тавараў, якія падлягаюць абавязковай маркіроўцы сродкамі ідэнтыфікацыі, у дачыненні да абутковых тавараў» (далей – пастанова №224) маркіроўка абутку на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі ўведзеная ад 1 ліпеня 2019 года.

Увоз у абарот абутковых тавараў без нанясення на іх сродкаў ідэнтыфікацыі і перадачы ў інфармацыйную сістэму маніторынгу звестак аб маркіроўцы абутковых тавараў сродкамі ідэнтыфікацыі, а таксама абарот і вывад з абароту абутковых тавараў, якія не маркіраваныя сродкамі ідэнтыфікацыі, дапускаецца да 1 сакавіка 2020 года.

Ад 1 сакавіка 2020 года набыты на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі абутак павінны быць прамаркіраваны сродкамі ідэнтыфікацыі, а ў касавым чэку павінны быць код ідэнтыфікацыі, нанесены на тавар.

Легальнасць набытага тавару, маркіраванага сродкамі ідэнтыфікацыі, можна праверыць з дапамогай мабільнага дадатку «Честный Знак». Дадатак счытвае лічбавы код Data Matrix ці іншы тып маркіроўкі з упакоўкі тавару і выдае вынікі праверкі.

Спампаваць дадатак можна ў App Store або Google Play. Сумяшчальна з iPhone, iPad і iPod touch з iOS 10.0 і навей, а таксама з прыладамі на базе Android 4.3 і вышэй. Адсутнічае тэрытарыяльнае абмежаванне на запампоўку і ўстаноўку дадатку. Яго можа сцягнуць і ўстанавіць на тэрыторыі любой з дзяржаў-членаў Еўразійскага эканамічнага саюза, далей – ЕАЭС.

**2. Аб парадку вылічэння і выплаты падатку на дададзеную вартасць (далей – ПДВ) у дачыненні да тавараў, набытых за наяўны разлік**

Незалежна ад вынікаў праверкі легальнасці набытых у Расійскай Федэрацыі тавараў, якія падлягаюць у адпаведнасці з заканадаўствам Расійскай Федэрацыі маркіроўцы сродкамі ідэнтыфікацыі, увоз тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь прызнаецца аб'ектам падаткаабкладання падаткам на дададзеную вартасць (далей –ПДВ). Пры ўвозе тавараў з тэрыторыі дзяржаў-членаў ЕАЭС спагнанне ПДВ ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Падатковым кодэксам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі. У тым ліку актамі, што складаюць права ЕАЭС (падпункт 1.2 пункта 1 артыкула 115, пункт 1 артыкула 139 падатковага кодэкса) . Такім дакументам з'яўляецца Дагавор аб ЕАЭС, падпісаны ў Астане 29 мая 2014 года.

Падлік ПДВ пры ўвозе тавараў рэгламентаваны Пратаколам аб парадку збірання ўскосных падаткаў і механізме кантролю за іх выплатай пры экспарце і імпарце тавараў, выкананні работ, аказанні паслуг, якія з'яўляюцца дадаткам да Дамовы аб ЕАЭС.

Больш падрабязная інфармацыя аб набыцці абутку на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі размешчаная на сайце **Rh.by.**

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

## Прыём грамадзян

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах нагадвае, што не пазней за 31 сакавіка 2020 года неабходна падаць падатковую дэкларацыю па падаходным падатку з фізічных асобаў за даходы, атрыманыя ў мінулым годзе.

Адбываецца прыём грамадзян, якія павінны падаць падатковую дэкларацыю па падаходным падатку за 2019 год, у рабочыя дні ад 8:00 да 19:00. Выхадныя – субота і нядзеля.

Звяртайцеся на адрас: **Маладзечна, вуліца Лібава-Роменская, 67, кабінет 214.**

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# Ртуць. Крыху пра небяспечны метал

Фота delfi.lt

**Медыцынскі тэрмометр – гэта першы дакладны прыбор для вызначэння тэмпературы цела пасля мамінай далоні. Але часам неасцярожныя рухі могуць пашкодзіць герметычную шкляную колбу. Тады ртуць выцякае на паверхню.**

– Ртуць – гэта вельмі таксічны метал. Ён і яго злучэнні адносяцца да першага, самага небяспечнага класа, – расказвае намеснік начальніка Цэнтра хімічнай і радыяцыйнай абароны Рэспубліканскага атрада спецыяльнага прызначэння МНС **Аляксандр Рамаnoўскі**.

– Калі разбіваецца градуснік, яго змесціва трапляе вонкі ў выглядзе аднаго ці некалькіх рухомых ртутных шарыкаў.

> **Пасля акіслення ртуць выдзяляе небяспечныя выпарэнні, якія наносяць шкоду здароўю чалавека.**

Асабліва небяспечныя найдрабнейшыя кроплі разлітай ртуці, якія трапляюць у шчыліны ў падлозе, у ворс дываноў, на абіўку мэблі.

### Гэта цікава

• Чалавецтва выкарыстоўвае ртуць больш за тры тысячы гадоў.

• Вадкі метал быў вядомы са старажытнасці. Тое, што ртуць належыць менавіта да металаў, даказалі Міхаіл Ламаносаў і Іосіф Браўн. У 1789 годзе навукоўцы змаглі замарозіць рэчыва і ўстанавілі яго металічныя ўласцівасці.

> **• Арыстоцель называў ртуць за яе рухомасць і колер жывым срэбрам.**

• Ртуць са старажытнасці актыўна прымянялі лекары для лячэння розных захворванняў скуры.

• Гэта адзіны метал, які пры пакаёвай тэмпературы знаходзіцца ў вадкім стане.

> **• Адзін літр ртуці важыць каля 14 кілаграмаў.**

• Ртутная пара можа ўтвараць святло, калі праз яе праходзіць электрычнасць. Таму ртуць выкарыстоўваюць у люмінесцэнтных лямпах.

### Як паводзіць сябе, калі разлілася ртуць

Калі здарылася такая сітуацыя, трэба выйсці з пакоя, шчыльна зачыніць дзверы і паведаміць пра гэта дарослым. Самастойна збіраць ртуць нельга.

Дарослыя павінны прыбіраць разлітую ртуць наступным чынам:

• надзець вільготную павязку і пальчаткі

• сабраць шарыкі, выкарыстоўваючы медыцынскую грушу з тонкім наканечнікам, металічны шуфель і пэндзаль, скотч і пластылін

> **• сабраныя шарыкі і аскепкі градусніка пакласці ў герметычную тару (напрыклад, шкляны слоік са шчыльнай накрыўкай) з растворам марганцоўкі**

• правесці хімічную апрацоўку памяшкання (дэмеркурызацыю). У дамашніх умовах можна прыгатаваць растворы: марганцавы (20 грамаў марганцоўкі на вядро вады) або мыльна-содавы. Гэтымі сродкамі з пульверызатара апрацаваць забруджаную паверхню

• праветрыць памяшканне

• калі самастойна не атрымліваецца цалкам сабраць ртуць, звярніцеся ў мясцовы ГРАНС ці выклічце выратавальнікаў па нумарах **101** ці **112**.

### Забараняецца

• дакранацца да ртуці рукамі

• збіраць метал пыласосам. Часткі ртуці асядаюць у шлангу і трубцы і таксічная пара працягвае распаўсюджвацца

• збіраць шарыкі венікам або шчоткай

> **• ладзіць у кватэры скразное праветрыванне, каб ртутная пара не распаўсюдзілася па ўсім памяшканні**

• выкідаць ртуць у смецціцу і каналізацыю

• мыць забруджанае адзенне ў пральнай машыне. Лепш яго выкінуць.



Спецыяльны прыбор-пастка для збору ртуці.

### Прыбор-пастка

Для збору ртуці выратавальнікі карыстаюцца спецыяльным прыборам-пасткай.

> **Гэта металічны сасуд з трубкай, які далучаецца да пыласоса. У прыбор заліваюць раствор марганцоўкі. Пасля ўключэння пыласоса паветра, пыл, металічнае смецце і ртуць засмоктваюцца ў пастку і асядаюць у вадкасці.**

А астатнія шкодныя рэчывы затрымліваюцца на фільтры.

**Таццяна ЯНКОВА.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Наркас» – галоўны серыял пра лацінаамерыканскія картэлі




Фота businessinsider.com.

**«Нарка» – амерыканскі тэлесерыял з трох сезонаў. Выйшаў на экраны ў 2015 годзе.**

Першыя два сезоны сфакусіравалі на станаўленні **Пабла Эскабара** ў якасці кіраўніка Мэдэльінскага какаінавага картэля, а таксама яго супрацьстаянне з агентамі наркакантролю. У трэцім сезоне распавядаецца гісторыя наркакартэляў, якія ў свой час працавалі разам, а потым супраць Эскабара.

«Наркас: Мексіка» выпусцілі ў 2018 года. Гісторыя ўзыходзіць да 1980-х гадоў у Мексіцы, дзе яна спалучаецца з папярэднімі сезонамі, якія факусіруюцца на Калумбіі. Сюжэт разгортваецца вакол супрацьстаяння наркакантролю і мексіканскіх картэляў, якія толькі-толькі пачынаюць зараджацца. Галоўнымі дзеючымі асобамі з'яўляюцца агент наркакантролю **Кікі Камарэна** і лідар картэля Гвадалахары **Феліксу Гальярда**.

Тэрмін «нарка» мае супрацьлеглыя значэнні. У іспанамоўных краінах Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі «нарка» – скарачэнне ад «наркагандляр», у той час як у ЗША «нарка» называюць афіцэраў Упраўлення па барацьбе з наркотыкамі, якімі і з'яўляюцца адны з галоўных герояў серыяла, агент **Мэрфі** і яго напарнік **Пенья**.

## Чаму серыял стаў папулярным?

Зборышага гэта маштаб дзейнасці Пабла Эскабара – ён кантраляваў больш за тры чвэрці гандлю какаінам у Амерыцы, яго становішча ацэньвалі ў 30 мільярдаў долараў, ён аказаўся ў самым багатым спісе часопіса «Форбс». Ён таксама беспакарана забіваў, бамбіў сталіцу Багату, выкрадаў, катаваў і забіваў адвакатаў, журналістаў, міністраў урада, кандыдатаў у прэзідэнты. У 1989 годзе ён падарваў рэйс авіякампаніі «Авіянка Айрлайнс» у няўдалай спробе забіць кандыдата ў прэзідэнты Сэзара Гавірыю Трухільё.

І хоць у Наркаса ёсць пэўнае зачараванне для апісання свету Эскабара, але ў ім можна асцярожна прадставіць цалкам карціну гандлю наркотыкамі. Стваральнікі серыяла працавалі ў цесным супрацоўніцтве з Мэрфі і Пеньей, якія злавілі Пабла Эскабара і супрацьстаялі наркакартэлям у Паўднёвай Амерыцы.

Акцёрскі склад у асноўным лацінаамерыканскі, каб гарантаваць сапраўднасць. Эскабара іграе ўзыходзячая бразільская зорка **Вагнер Моўра**, а дыялогі на 60% па-англійску і 40% на іспанскай мове.

Агенты наркакантролю робяць кампраміснЫ выбар для дасягнення сваіх мэтаў, а картэль выкарыстоўвае свае крывавыя грошы, каб ініцыяваць жыллёвыя праекты ў раёнах Мэдэліне. І на фоне гэтага няўмольна гінуць невінаватыя людзі.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 МАРТА

**7.00, 15.40, 18.15, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ СКВОЗЬ ВРЕМЯ».**
**9.35, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.20** «BELFASHION.TV» Программа о моде и не только…
**10.50** Х/ф **«ДАЛЬНЯЯ ДОРОГА».**
**13.00, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**15.45** «Юморинка».
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ОФИС».**
**16.30** Х/ф **«ЧЕРЕПАШКИ НИНДЗЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Герои комиксов на экране» Боевик «Первый мститель. Противостояние».
**23.35** Х/ф **«НОЧНОЙ РЕЙС».**

### ВТОРНИК, 3 МАРТА

**7.00, 15.30, 18.15, 21.05, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30, 15.35** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«БЛОНДИНКА В ЗАКОНЕ».**
**9.15, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.00** Д/ф «ПРЕМУДРОСТИ ЛЕСНОЙ ЖИЗНИ».
**10.20** Х/ф **«ПЕРВЫЙ МСТИТЕЛЬ. ПРОТИВОСТОЯНИЕ».**
**12.50, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.25** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**15.40** «Мульт-парад».
**15.50** Х/ф **«ОФИС».**
**16.15** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**16.40** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ГРАВИТАЦИЯ».**
**22.45** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**

### СРЕДА, 4 МАРТА

**7.00, 15.25, 18.20, 21.15, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт- парад «Мой маленький пони».
**7.30** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«СЕРДЦЕЕДКИ».**
**9.35, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** Д/ф «ФЕНОМЕН ЛЮБВИ».
**11.00** Х/ф **«ГОРДОСТЬ И ПРЕДУБЕЖДЕНИЕ И ЗОМБИ».**
**12.50, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.30** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**15.30** «Мульт-парад».
**15.45** Х/ф **«ОФИС».**
**16.10** «Законы привлекательности».
**16.45** Х/ф **«ГРАВИТАЦИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Цена недвижимости».
**21.20** Х/ф **«ОСНОВНОЙ ИНСТИНКТ».**
**23.30** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ».**

### ЧЕТВЕРГ, 5 МАРТА

**7.00, 15.35, 20.00, 21.05, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Мой маленький пони».
**7.30, 15.40** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ТОМБ РАЙДЕР. ЛАРА КРОФТ».**
**9.35, 20.05** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ».**
**12.50, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.25** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**15.45** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ОФИС».**
**16.20** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**17.50** «Готовь как шеф».
**18.10** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА С ТАТУИРОВКОЙ ДРАКОНА».**
**23.50** Х/ф **«ЕВА. ИСКУССТВЕННЫЙ РАЗУМ».**

### ПЯТНИЦА, 6 МАРТА

**7.00, 15.45, 19.55, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Мой маленький пони».
**7.30** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«БРИДЖЕТ ДЖОНС. ГРАНИ РАЗУМНОГО».**
**9.30, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.45** Д/ф «ЗИМНЯЯ СТЕПЬ».
**11.00** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ ОСЕНИ».**
**13.15, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.50** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ОФИС».**
**16.30** Х/ф **«МОЙ ЛАСКОВЫЙ И НЕЖНЫЙ ЗВЕРЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**23.10** Х/ф **«ЛОС-АНЖДЕЛЕС».**

### СУББОТА, 7 МАРТА

**7.00** «Погода»+ «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Золушка».
**8.20** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**9.45** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**10.10** Х/ф **«ДОМОВОЙ».**
**12.00** Х/ф **«ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**
**14.10, 18.25, 21.15, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**14.15** Мультфильмы «Красавица и чудовище».
**15.35 Муз/ф «Мери Поппинс возвращается».**
**17.50** «Законы привлекательности».
**18.30** Александр Солодуха. 6:0 Национальный олимпийский стадион «Динамо».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ПОДМЕНА».**
**23.40** Х/ф **«ЧЕРНАЯ ОРХИДЕЯ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 МАРТА

**7.00, 13.05, 19.05, 21.05, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.10** Х/ф **«БАРЫШНЯ-КРЕСТЬЯНКА».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.40** «Законы привлекательности».
**11.15** Х/ф **«КОЛЕТТ».**
**13.10** «Смотрим всей семьей». «Зачарованная».
**15.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «КЛЮЧ К РАЗГАДКЕ».**
**15.55** Т/с **«КАСЛ».**
**16.40** Х/ф **«КОРОЛЕВА ПУСТЫНИ».**
**18.50** «Цена недвижимости».
**19.10** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«УНЕСЕННЫЕ ВЕТРОМ».**



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 2 МАРТА

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая радзіма.
**20.15** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ТАРИФ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 3 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.00** Х/ф **«2+1».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 4 МАРТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**10.00** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**16.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**18.40** По правилам таможни.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 5 МАРТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**15.00** Рядом со звездой.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**

### ПЯТНИЦА, 6 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**9.40** По правилам таможни.
**11.40** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**16.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.20** Мнения и факты.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 7 МАРТА

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Рядом со звездой.
**13.00** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ».**
**14.50** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.30** По правилам таможни.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 8 МАРТА

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**12.50** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«БАБЛО».**
**21.30** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС».**

## Беларусь 1

**6.40** Х/ф **«ДЕВОЧКИ МОИ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** «Все за стол!».

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35, 16.35** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Eurovision. Итоги недели.

**17.40** «Сердце — дом для любви». Концерт Таисии Повалий.

**19.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«КОРОЛЕВА «МАРГО».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.30** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.40, 19.40** Телебарометр.

**9.45** «ЖаннаПожени». Свадебное шоу.

**10.40** «Шерлоки». Детективное шоу.

**11.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**13.05** Х/ф **«КРАСОТКА».**

**15.05** «Когда мы дома». Скетчком.

**15.30** «Ужин не нужен».

**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.55** Фэнтези «Алиса в стране чудес».

**20.10** «Орел и Решка. Рай и ад». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Любовь на выживание». Реалити-шоу.

**22.50** Х/ф **«КРАСАВЧИК АЛФИ, ИЛИ ЧЕГО ХОТЯТ МУЖЧИНЫ».**

## Беларусь 3

**7.15, 13.15** Навіны культуры.

**7.35, 13.35** Гэты дзень.

**7.40** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Жулікі па-далецку.

**10.50** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм [СТ].

**13.40** «Майстры і куміры». Тэлевядучая, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Алена Спірыдовіч.

**14.35** «Славянскі базар у Віцебску-2019». Залаты хіт.

**16.30** «Вакзал для дваіх». Мастацкі фільм [СТ].

**18.50** «Дыскатэка СССР». «Дзень добры, сябры!» Канцэрт.

**19.45** «Дыскатэка СССР». «Жадаю табе». Канцэрт.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Блаславіце жанчыну». Мастацкі фільм [СТ].

**23.05** «Belcanto». Сольны канцэрт Анастасіі Масквіной і Аксаны Волкавай.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** Х/ф **«ДЕВЧАТА».**

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«БУДЬТЕ МОИМ МУЖЕМ».**

**11.25** Кино в цвете. «Весна на Заречной улице» (12+).

**13.15** Х/ф **«МОСКВА СЛЕЗАМ НЕ ВЕРИТ».**

**16.20** ОНТ представляет: «13 оттенков любви». Концерт Искуи Абалян.

**18.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ».**

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.15** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.35** Т/с **«КОМИССАРША».**

**0.35** «Про любовь».

## СТВ

**6.30, 1.35** «Секретные территории».

**8.10, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 13.40, 16.40** Т/с **«НЮХАЧ 2».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.10** «Неделя спорта».

**22.40** Т/с **«НОРВЕГ».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ОРКЕСТР».**

**8.05** «Культ/туризм».

**8.35, 5.30** Мультфильмы.

**8.45** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00** Новости.

**10.15** «Играй, дутар!».

**10.50, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«БАБИЙ БУНТ, ИЛИ ВОЙНА В НОВОСЕЛКОВО».**

**16.00** Погода в Мире.

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.30** Х/ф **«БЛИЗНЕЦЫ».**

**3.50** Х/ф **«БИНГО-БОНГО».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «Истории ремонта».

**7.20, 22.10** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** Премьера. «24 вопроса». Мария Гулегина.

**8.50** Беларусы. Светлана Боровская.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.00** «НашПотребНадзор».

**13.55** Х/ф **«БАРС И ЛЯЛЬКА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.40** «Звезды сошлись».

**21.05** Ты не поверишь!

**22.45** Премьера. «Все звезды для любимой». Праздничный коцерт.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«УКРАДИ МЕНЯ».**

**10.20** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.15** Х/ф **«НЕПУТЕВАЯ НЕВЕСТКА».**

**14.40** Х/ф **«БЛЮЗ ДЛЯ СЕНТЯБРЯ».**

**16.35** Х/ф **«БОЛЬШОЙ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Emin «Good love». Сольный концерт.

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 15.45** Дорогой Джон. **8.25** Голодные игры. **11.05** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **13.40** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **17.45** Сумерки. **20.10** Сумерки. Сага. Новолуние. **22.40** Сумерки. Сага. Затмение. **1.05** Очень плохие мамочки 2. **2.50** Случайный муж. **4.15** Герцогиня.

### TV1000 ACTION

**6.40** Клин клином. **8.25** Ускорение. **10.05** Анон. **11.50** Отряд особого назначения. **13.45** Взрывная блондинка. **15.45** Три икса. **17.55** Три икса 2: Новый уровень. **19.35** Люси. **21.10** Убить Билла. **23.05** Убить Билла 2. **1.25** Пипец. **3.20** Голодный кролик атакует. **5.10** Истерия.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.45** Тайна печати дракона. **10.15** День радио. **12.05** День выборов 2. **14.05** Любовь в большом городе. **15.45** Любовь в большом городе 2. **17.25** Любовь в большом городе 3. **19.00** Мамы. **21.00** Лёд. **23.00** Ты у меня одна. **0.50** ЖАRA. **2.35** Я буду рядом. **4.10** Отрыв. **5.30** Позвоните Мышкину.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.15, 10.15, 11.15** Т/с **«ПОМНИТЬ ВСЕ». 12.00, 13.00, 14.00, 15.15, 16.30, 17.30, 18.30, 19.45, 21.00, 22.15** Т/с **«МАСТЕР И МАРГАРИТА». 23.15** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.30** Х/ф **«ДОЧЬ КОЛДУНЬИ: ДАР ЗМЕИ». 2.30** Х/ф **«БЕОВУЛЬФ». 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00, 20.00, 21.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 4.00** Т/с **«ДВОЕ ИЗ ЛАРЦА. АРОМАТ ЛЖИ». 5.00** Т/с **«ЖУКОВ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Самый лучший день. **2.35** Мужчины против женщин. **4.25** Женщины против мужчин. **6.05** Дочь моего босса. **7.45** Душевная кухня. **9.45** Притворись моим мужем. **11.40** Случайный шпион. **13.25** Джей и Молчаливый Боб наносят ответный удар. **15.20** Жизнь, как она есть. **17.35** Чего хочет Джульетта. **19.30** Любовь с акцентом. **21.30** Война полов. **23.10** С любовью, Рози.

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.25, 2.25, 4.00** Без права на второй шанс. **5.05, 5.50, 6.30, 7.30, 8.25, 9.20, 10.15, 11.10, 12.05, 13.00** Чисто английские убийства. **14.00** Шерлок: Шесть Тэтчер. **15.50** Шерлок: Ложный детектив. **17.40** Шерлок: Последнее дело. **19.30** Шерлок Холмс: Игра теней. **21.55** Шанхайский полдень.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.30, 9.25, 10.55, 11.30, 13.00, 15.40, 17.30, 19.10, 20.55, 23.10, 23.55** Погодка. **6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **9.30** Т/с **«ЕРАЛАШ». 10.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **11.00, 2.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.35, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **13.05** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 15.45** Х/ф **«РИО». 17.35** Х/ф **«8 ПЕРВЫХ СВИДАНИЙ». 19.15** Х/ф **«ХЭНКОК». 21.00** Х/ф **«ПАССАЖИРЫ». 23.15** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.00** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.10** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **4.00** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Азбука спорта. **6.45** Теннис. Кубок Дэвиса. Германия — Беларусь. **8.50** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Эстафета. **10.15** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск (Беларусь) — Зелена Гура (Польша). **12.00** Гандбол. SEHA-Газпром лига. 1/4 финала. Первый матч. **13.35** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Масстарт. Женщины. **14.35** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **15.05** На пути к Токио-2020. **15.35** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Масстарт. Мужчины. **16.30** Тренировочный день. **17.00** Спорт-центр. **18.55** Пит-стоп. **19.25** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед — Манчестер Сити. В перерыве Спорт-центр. **21.25** Итоги недели. **22.10** Фристайл. Кубок мира. Красноярск. **23.45** Теннис. WTA. Лион. Финал.

### EUROSPORT

**0.35, 7.30** Велоспорт. Страде Бьянке. Мужчины. **1.15** Конный спорт. Global Champions Tour. Доха. **2.15, 10.30** Горные лыжи. Кубок мира. Офтершванг. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **2.45, 8.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Осло. HS 134. Команды. **3.30** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Женщины. Эстафета. **4.15** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Мужчины. Эстафета. **5.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Осло. Женщины. Масс-старт. 30 км. Классика. **6.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Осло. HS 134. **6.30** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Осло. Гонка преследования. **7.00** Велоспорт. Страде Бьянке. Женщины. **9.30** Горные лыжи. Кубок мира. Квитфьель. Мужчины. Скоростной спуск. **11.20** Горные лыжи. Кубок мира. Офтершванг. Женщины. Слалом. 1-я попытка. Прямая трансляция. **12.30** Горные лыжи. Кубок мира. Квитфьель. Мужчины. Супергигант. Прямая трансляция. **13.45** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Женщины. Масс-старт. Прямая трансляция. **14.30** Горные лыжи. Кубок мира. Офтершванг. Женщины. Слалом. 2-я попытка. Прямая трансляция. **15.30** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Мужчины. Масс-старт. Прямая трансляция. **16.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Осло. HS 134. Прямая трансляция. **18.15** Лыжные гонки. Кубок мира. Осло Мужчины. Марафон. 50 км. Классика. **19.15, 23.35** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Женщины. Масс-старт. **19.45** Биатлон. Кубок мира. Нове-Место. Мужчины. Масс-старт. **20.15** Горные лыжи. Кубок мира. Офтершванг. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **21.05** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Осло. HS 134. **22.00** Горные лыжи. Кубок мира. Квитфьель. Мужчины. Супергигант. **22.45** Велоспорт. Париж — Ницца. 1-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.15, 1.05, 1.55** Теория полного привода. **6.30** Трасса А2. **7.50, 10.05, 13.00, 16.15, 19.25, 0.50, 1.40, 4.15** Итоговые новости. **8.05** Стальные парни. **8.55, 9.10** Все включено. Эксклюзив р. **9.25, 10.25** За рулем каждый день. **9.50** Вторичка. **10.50, 20.35, 22.55, 4.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.20, 21.05, 23.30, 5.15** Школа внедорожного вождения. **11.35, 12.35, 13.50, 14.50, 15.50, 17.05, 18.00, 19.00** Поехали. **12.00, 13.15, 14.15, 15.15, 16.30, 17.30, 18.25** Тест в большом городе. **19.40, 20.10** Гаражная команда. **21.25, 23.45, 5.30** 9 злобных водителей. **21.55, 2.25** Вечер с Пикуленко. **22.40, 3.05** Аварийная ситуация. **0.20** Советы для каждого. **3.20** Сити-тестер. **3.45** Тест на «Драйве». **4.30** Проверка на дороге.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.10, 9.00** Речные чудовища. **9.55** Большой улов. **10.50** Чудовищный карп. **11.40** Строительство гигантов. **12.30** Короли разрушения. **13.25, 14.15, 15.05** Выживание в лесу. **15.55, 16.20** Нефритовая лихорадка. **16.45, 17.10** Демонтаж: Новая Зеландия. **17.35, 18.20, 19.05, 19.50, 20.35, 21.20, 22.05, 22.50, 23.35, 0.20** Поисковая команда в Австралии. **1.05, 1.50** Деревенский дом. **2.35, 3.25** Австралийские охотники на лобстеров. **4.15, 5.00** Адские грузовики.

### HISTORY

**6.10, 6.35** Невероятные изобретения. **7.00, 7.45, 3.30, 4.15, 5.00** Музейные тайны. **8.45, 9.45** Великая миграция. **10.45, 11.45** Коварная Земля. **12.45** День, когда умер Кеннеди. **13.40** Тайны римских черепов. **14.35** Безумцы с «Батавии». **15.30, 16.00, 16.25, 16.55** Тайны Парижа. **17.20, 18.35** Поля сражений. **19.50** История далекого прошлого. **21.00** Первые американцы. **21.55** Революция в России. **23.00** Военные заводы. **23.55, 0.25** Родовые проклятья. **0.55, 1.55, 2.45** Запретная история.

### NATURE

**6.10** Постыдные проблемы питомцев. **6.35, 10.10** Жизнь тупиков. **7.30** Как выживают медведи. **8.20** Мир природы — крылатые охотники на обезьян. **9.15** Мир природы — радио «Гиббон». **11.05, 12.00, 12.55** Великая рифтовая долина — дикое сердце Африки. **13.50** Выживание в дикой природе. **15.00** Природа Америки: времена года. **15.55, 16.50, 17.50** Великая американская оттепель. **18.45** Мир природы — Лобо — волк, который изменил Америку. **19.40** Природа в кадре. **20.05, 21.00, 21.55, 22.50, 23.45, 0.35** Земля больших кошек. **1.30, 2.20** Анатомия крупнейших животных. **3.10** Ветеринар из Йоркшира. **3.50** Новорожденные в зоопарке. **4.20, 4.40, 5.05, 5.30** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Научные глупости. **6.20** Код опасности. **6.45, 7.05** История десятилетий. **7.30, 4.45** Обезьяночеловек. **8.20** Игры разума. **9.05** В поисках наследия. **9.50, 16.20** Женщины, меняющие мир. **10.35, 15.35** Женщины-воины викингов. **11.20, 19.00, 2.20** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **12.05, 17.05, 21.20** Диана: Утерянные кадры. **14.00, 23.15** «Джейн». **19.45, 0.45** В поисках Амелии. **3.10, 4.00** Расследования авиакатастроф.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 18.00, 2.15** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.30, 18.30, 2.40** Экстремальный фидер. **6.55, 19.00, 23.05, 3.10** Россия заповедная. **7.25, 11.30, 15.30, 23.35, 3.35** Камский спиннинг. **7.55, 20.00, 4.05** Ледовые тропы рыбалки. **8.25, 8.40, 12.30, 16.25, 16.40, 20.30, 4.35, 4.50** Профессиональная рыболовная лига 2019. **8.55, 1.10, 5.00** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.25, 13.25, 17.30, 21.35, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **9.55, 10.55, 11.55, 12.55, 14.00, 14.55, 16.00, 17.00** Научи меня рыбачить. **19.30** Вкусные рецепты охотника. **20.45** Нож-помощник. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Охота и рыбалка в. **22.35** Рыбалка 360. **0.05** Охотничьи меридианы. **0.40, 0.55** Какая дичь! **1.45** Мир рыболова.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 18.00, 21.55, 2.05** Идеальные мастера. **7.00** Фитоаптека с Мариной Рыкалиной. **7.30, 10.55, 12.00, 13.00, 16.40** Флористика. **7.45, 9.00, 12.45, 15.35, 16.55** Цветик-семицветик. **8.00, 15.50, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 0.30** Высший сорт. **8.50, 11.10, 15.20** Букет на обед. **9.20, 17.10** Огород круглый год. **9.35** Не просто суп! **11.25, 15.05** Постное меню. **11.45, 14.45** Огород круглый год. **12.15** Дом, милый дом! **13.15** Праздник в дом. **13.45, 19.05, 3.05** Беспокойное хозяйство. **14.15, 19.35, 23.30, 3.35** Профпригодность. **16.10, 20.20, 4.35** Кашеварим. **16.25, 20.35, 4.50** Ваш агроном. **17.30** Обнови свой сад. **20.50, 0.50, 5.05** Дачных дел мастер. **21.25, 1.20, 5.30** 10 самых больших ошибок. **22.55** Тихая моя родина. **1.45** Академия огородника. **4.05** Травовед.

# Чаму капітана Рэута не варта было памятаць яго сям'і

## Пра лёс капітана – удзельніка Нарачанскай аперацыі

МЯДЗЕЛ

**Ён быў першым мужам маёй бабулі па бацьку – Надзеі Данілаўны. Доўгія пошукі дазволілі з большага даведацца пра яго ўжо далёкае жыццё. Раскажу пра тое, што вядома дакладна.**



Фота з архіва Андрэя МАЦУРА.

Падчас Нарачанскай аперацыі.

**Леанард Сігізмундавіч Рэут** нарадзіўся ў пешай палове 1870-х гадоў у Віцебскай губерні. Скончыў Віленскае юнкерскае вучылішча ў 1898 годзе. У 1899 годзе яго прызначылі падпаручнікам 99 пяхотнага Івангародскага палка.

> Напярэдадні руска- японскай вайны, ужо штабс-капітанам, Леанард Рэут ажаніўся ў Омску з сястрой міласэрнасці Надзеяй Зяньковіч і разам з ёй пайшоў на вайну.

Пасля вайны муж і жонка жылі ў Омску, у іх нарадзіліся два сыны і дачка.

### Як ваяваў і памёр капітан Рэут

На пачатку Нарачанскай аперацыі на Першай сусветнай вайне капітан Рэут камандаваў першым батальёнам другога сібірскага стралковага палка першай Сібірскай стралковай дывізіі. Штатная колькасць батальёна – ад васьмісот да тысячы чалавек.

У першы дзень аперацыі, 5 сакавіка 1916 года па старым стылі, загінула каля 200 афіцэраў і больш за 15 тысяч салдатаў рускай арміі. Раніцай 8 сакавіка ля населенага пункта Лясныя Муляры, што ў Пастаўскім раёне, капітан Рэут пад шквальным кулямётным і ружэйным агнём спрабаваў падняць у атаку залеглую перад калючым дротам зводную роту з байцоў свайго батальёна, ад якога заставалася 180 чалавек.

> Капітана цяжка паранілі, і ў хуткім часе ён памёр у першым лазарэце першай Сібірскай стралковай дывізіі.

Пахавалі яго ў населеным пункце Дунілавічы на мясцовых могілках. На яго магіле быў усталяваны помнік.

За дзесяць дзён Нарачанскай аперацыі загінула амаль 80 тысяч салдат і больш за тысячу афіцэраў рускай арміі. Ля Дунілавічаў могілак стала значна болей.

> Воінская служба Леанарда Рэута была адзначаная мноствам узнагарод.

У архівах знайшліся дакладныя звесткі пра ордэны Святой Ганны другой ступені і Святога Станіслава другой і трэцяй ступеняў.

### Савецкая ўлада забрала пенсію і павесіла кляймо

За загінулага мужа Надзея Данілаўна атрымлівала ад рускай дзяржавы на сябе і на дзяцей годную пенсію. Новая ўлада пенсіі яе пазбавіла, затое з'явілася кляймо: удава царскага афіцэра. Згадваць капітана стала небяспечна.

Новае жыццё адбілася і на дзецях Рэутаў – памерла дачка. Выхаваць сыноў бабулі дапамагло замужжа за былым даручэнцам капітана, маім будучым дзедам, бальшавіком. У самастойным жыцці сыны царскага афіцэра таксама пазбягалі ўспамінаць свайго бацьку і аддалі свае жыцці на франтах Другой сусветнай. Памяць пра капітана не захавалі і яго ўнукі і праўнукі.

> У другім шлюбе Надзея Данілаўна нарадзіла яшчэ двух сыноў, але дакументы аб першым шлюбе і ўзнагароды першага мужа захавала. І гэта выратавала ёй жыццё.

На пачатку Другой сусветнай па даносе суседзяў аб тым, што яна жонка і маці камуніста, па яе прыйшлі немцы. Убачыўшы захаваныя пасведчанні і ўзнагароды, бабулю забралі ў камендатуру, а потым вывезлі ў Аўстрыю.

### Жонка ўпотайкі ездзіла на магілу першага мужа

Пасля вайны яна з малодшымі сынамі апынулася ў Мядзеле. Пакуль дазвалялі сілы, яна ўпотайкі ездзіла ў Дунілавічы на магілу першага мужа.

> У сярэдзіне 1950-х мае стрыечныя браты знайшлі схаваную бабуляй скарбонку з узнагародамі Леанарда Рэута.

Іх бацька тую шкатулку адабраў, і яна знікла назаўсёды. Для яго, камуніста, дырэктара школы і франтавіка, камандзіра артылерыйскай батарэі, што прайшоў ад Сталінграда да Берліна, у той час узнагароды царскага афіцэра-героя маглі стаць сур'ёзным кампраматам.

Адзін з бабуліных унукаў яшчэ пры яе жыцці пачаў служыць на стартавай пляцоўцы касмадрома Байканур – вышэйшая ступень сакрэтнасці, якая патрабуе спецыяльнага допуску – і даслужыўся да падпалкоўніка. Яму таксама не варта было памятаць пра капітана Рэута.

Незадоўга да смерці Надзея Данілаўна наказала сынам усе дакументы і фотаздымкі з яе жыцця спаліць, каб яны не перашкаджалі ўнукам і праўнукам жыць. І мой бацька, і мой дзядзька, бязлітасна бітыя жыццём мужыкі ва ўзросце далёка за пяцьдзясят, не паслухацца яе не адважыліся. Вось чаму з такімі цяжкасцямі даводзіцца здабываць звесткі векавой даўніны пра лёс капітана Рэута Леанарда Сігізмундавіча – героя з наканаваным забыццём.

P. S. Шчыры дзякуй супрацоўнікам Пастаўскага раённага краязнаўчага музея за ўвагу, разуменне і дапамогу ў пошуках. Нізкі паклон гісторыку і краязнаўцу Аляксандру Іванавічу Кузняцову за дакладную інфармацыю.

**Міхась ЯФРЭМЕНКА,**
**пенсіянер.**

---

● КАЛЯНДАР

28 ЛЮТАГА
**1935.** Вынайдзены нейлон.

29 ЛЮТАГА
Шасцідзясяты, факультатыўны дзень года па Грыгарыянскім календары. Бывае толькі ў высакосныя гады.
**1468.** Апублікаваны першы літоўскі кодэкс – Статут Казіміра IV Ягелончыка, або Судзебнік 1468 года. Першы крымінальны кодэкс ВКЛ.

1 САКАВІКА
**1917.** Нарадзіўся **Фёдар Шмакаў**, беларускі акцёр, рэжысёр. Народны артыст Беларусі, народны артыст СССР.



2 САКАВІКА
**1931.** Нарадзіўся **Міхаіл Гарбачоў**, прэзідэнт СССР.

3 САКАВІКА
**1067.** Адбылася бітва на Нямізе паміж злучанымі дружынамі Яраславічаў і войскам полацкага князя Усяслава Брачыслававіча. Першая летапісная згадка пра Менск (Мінск). Горад спалены, гараджане забітыя або вывезеныя ў палон.

4 САКАВІКА
1956. У Беластоку пачала выходзіць беларускамоўная газета «Ніва» для беларускай меншасці ў Польшчы.

5 САКАВІКА



1897. У в. Качаны, цяпер Мядзельскі раён, нарадзіўся **Васіль Шаранговіч**, дзяржаўны дзеяч БССР, удзельнік усталявання савецкай улады на Беларусі. Прычыніўся да рэпрэсій. Сам рэпрэсіраваны і расстраляны ў 1938 годзе. Рэабілітаваны. У 1910 – 1917 працаваў у Маладзечне на чыгунцы слесарам, памочнікам машыніста. Імем Шаранговіча названыя плошча ў Мядзеле, вуліцы ў Маладзечне і Мінску.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Знаходка ў Находцы

## Рэдкія фотаздымкі Маладзечна 1950-х знайшлі на берагах




Аўтобусная станцыя на плошчы Свабоды, цяпер Старое Места, 1959 год.

**Краязнаўца і пісьменнік з Маладзечна Уладзімір Садоўскі расказвае, як здабыў электронныя копіі некалькіх фотаальбомаў з рэдкімі фотаздымкамі горада 1950-х гадоў.**

У Расіі існуе сайт **Госкаталог.рф,** які з'яўляецца дзяржаўным электронным каталогам музейнага фонду Расійскай Федэрацыі і пастаянна папаўняецца фотаздымкамі і апісаннем экспанатаў з музеяў усёй краіны. У Беларусі ёсць падобны сайт dkmf.by, але ён амаль не абнаўляецца. За апошнія 10 месяцаў, згодна са статыстыкай сайта, беларускі музейны каталог папоўніўся на 508 экспанатаў, а ўсяго іх там каля 17 тысяч.

У той жа час расійскі каталог за 2019 год апрацаваў 4,5 мільёна музейных прадметаў, а ўсяго на дзяржкаталогу ўтрымліваецца 18,5 мільёна экспанатаў. Сярод гэтага мноства ёсць тысячы аб'ектаў, звязаных з Беларуссю. Я перыядычна манітору абнаўленні на сайце і шукаю экспанаты па назвах нашых гарадоў: Мінск, Гомель, Гродна і, вядома, Маладзечна.

### Як адшукаў кантакт з Находкай

Аднойчы пошук па слову «Молодечно» выдаў мне пяць новых экспанатаў. Гэта былі фотаальбомы 1950-х гадоў, падпісаныя «Экіпажу танкера «Маладзечна» ад Маладзечанскага Дома піянераў» або «ад працоўных горада Маладзечна». Сайт не даваў магчымасці пабачыць цалкам змест альбомаў, там размяшчаліся толькі фотаздымкі вокладак і інфармацыя, у якім музеі захоўваюцца.

Аказалася, гэтыя фотаальбомы знаходзяцца ў музейна-выставачным цэнтры расійскага горада Находка, што месціцца на беразе Японскага мора «ўсяго» ў 7200 кіламетрах ад Маладзечна.

Ідэю паехаць у Находку, каб паглядзець на фотаздымкі, я адкінуў адразу і прыняўся шукаць кантакты музейнага цэнтра ў інтэрнэце. Электронную пошту знайшоў хутка, напісаў у музей ліст з просьбай адсканаваць альбомы і даслаць мне як краязнаўцу, для якога старыя здымкі горада будуць каштоўнай крыніцай гістарычнай інфармацыі. Пасля месячнай перапіскі электронныя копіі альбомаў перадалі мне з адной умовай – пры публікацыі здымкаў паўсюль узгадваць, што іх узялі з фондаў музейна-выставачнага цэнтра Находкі.

### Танкер «Маладзечна»

Якім чынам фотаздымкі беларускага горада апынуліся на Далёкім Усходзе Расіі? Адказ ёсць – гэта танкер «Маладзечна». Згодна з даведнікам па марскіх суднах, танкер з назвай «Маладзечна» быў пабудаваны на ленінградскай верфі ў 1956 годзе. Чаму яго назвалі ў гонар нашага горада, не ведаю, але падазраю, што прычынай быў абласны статус Маладзечна ў 1944–1960 гадах.

Многія танкеры гэтай серыі назвалі ў гонар абласных гарадоў Савецкага Саюза, напрыклад, Гродна, Вінніцы, Жытоміра, Іванава, Растова і іншых. Усяго танкераў тыпу «Казбек» пабудавалі 62 судны. Першапачаткова «Маладзечна» размяшчаўся ў Туапсэ пры Чарнаморскім марскім параходстве. У 1966 годзе перадалі ў Дальнеўсходняе параходства, дзе знаходзіўся спачатку ў порце Уладзівастока, а затым ад 1972 года – у Находцы.

У 1979 годзе танкер прадалі ў Японію на ўтылізацыю, якая адбылася ў 1980 годзе. У расійскім музеі мне не змаглі адказаць, калі і якім чынам альбомы з танкера аказаліся ў іх. Але, думаю, адбылося гэта тады, калі судна рыхтавалі да ўтылізацыі і нехта з экіпажа вырашыў перадаць у музей альбомы, што захоўваліся на караблі.

### Альбом з жыццём 1950-х

Што ж у тых альбомах, запытаецеся вы? Тры з пяці падрыхтавалі выхаванцы гарадскога Дома піянераў у 1957, 1958 і 1959 гадах. У іх змясцілі фотаздымкі з заняткаў у гуртках, якія ў той час былі ў Доме піянераў. Шмат здымкаў удзельнікаў гуртка суднамадэлявання.

Я чуў, што ўдзельнікі гуртка зрабілі мадэль танкера «Маладзечна», якая захавалася дагэтуль. Ёсць здымкі з пастановак драматычнага гуртка, выявы ўдзельнікаў шахматнага, танцавальнага, турыстычнага, іншых гурткоў. Найбольшую каштоўнасць уяўляе альбом 1959 года. Ён амаль напалову складаецца са здымкаў вуліц Маладзечна, якія зрабілі ўдзельнікі фотагуртка Дома піянераў. На гэтых здымках можна пабачыць горад без афіцыёзнага лоску, які характэрны для газетных кадраў.

Там ёсць выявы самога Дома піянераў – у гэтым будынку па вуліцы Віленскай, каля СШ №3, цяпер месціцца крама будматэрыялаў. Ёсць кадры будаўніцтва бібліятэкі, універмага і камбіната «Бярозка», фотаздымкі новых вуліц у цэнтры і старой забудовы на Старым Месце. Дзякуючы гэтым здымкам я даведаўся, што будынак, у якім цяпер знаходзіцца гандлёвы цэнтр на Валынца, а раней размяшчалася гармонная фабрыка, напрыканцы 1950-х быў двума асобнымі будынкамі, якія аб'ядналі ў адзін у 1960-я. У альбомах ёсць шэраг здымкаў падпісаных, як «піянеры атрымліваюць падарункі ад экіпажа танкера «Маладзечна». Відаць, у 1950-я гады паміж чарнаморскімі маракамі і маладзечанцамі ішла актыўная перапіска, якая пасля скасавання Маладзечанскай вобласці прыпынілася, альбо проста пазнейшыя альбомы не захаваліся. Наколькі я ведаю, у Маладзечне

# Японскага мора




Будаўніцтва бібліятэкі. 1959 год.




Старэйшая настаўніца, кіраўнік акапэльнага хору Паўліна Мядзёлка, 1957 год.




У Доме піянераў разглядаюць фотаальбом і каралы, дасланыя экіпажам танкера.



Танкер «Маладзечна».




Вокладка аднаго з альбомаў за 1959 год.

захоўваецца адзін фотаальбом, дасланы экіпажам танкера ў адказ маладзечанскім школьнікам.

Два іншыя альбомы з пяці, што захоўваюцца ў зборах находкінскага музея, падпісаныя ад імя працоўных горада Маладзечна і аформленыя работамі фотакарэспандэнтаў маладзечанскай абласной газеты «Чырвоны сцяг» у альбоме 1957 года і раёнкі «Святло камунізму» ў альбоме 1963 года – адзінага альбома, які даслалі на танкер ужо пасля скасавання вобласці. Там размясцілі ідэалагічна вывераныя здымкі з перадавікамі вытворчасці, першамайскімі шэсцямі і відамі горада на паштоўках.

Але і сярод такіх здымкаў былі цікавыя краязнаўчыя знаходкі, напрыклад, у альбоме за 1957 год быў змешчаны фотапартрэт настаўніцы школы ў пасёлку Крывічы **Паўліны Вінцэнтаўны Мядзёлкі**. Той самай Мядзёлкі, якая ў 1913 годзе выконвала ролю Паўлінкі ў пецярбурскай прэм'еры аднайменнай п'есы Янкі Купалы.

### Дадайце да архіва свае фота

Які будзе далейшы лёс гэтых здымкаў? Пры дапамозе маладзечанскага фатографа **Яўгена Стэльмаха** я планую зладзіць выставу ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі, дзе выставім раздрукаваныя старонкі з фотаальбомаў, рэпрадукцыі здымкаў 1950-х з фондаў нашага музея.

Пасля выставы збіраюся выкласці альбомы ў інтэрнэт на новым краязнаўчым сайце molodechno.net, дзе кожны ахвотны зможа азнаёміцца з фотаздымкамі. Калі ў вас у сямейным архіве захаваліся старыя здымкі Маладзечна, я быў бы рад зрабіць іх копію, каб папоўніць гістарычную калекцыю выяў нашага горада. Пакідайце кантакты ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» на пошце **regionnews@rh.by.**

**Уладзімір САДОЎСКІ,**
**краязнаўца.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**
Фотаздымкі з фондаў музейна-выставачнага цэнтра Находкі.

# Маладзечанцам распавялі пра лёгкія



Будучая мама Вольга Ганчарук чакае першае дзіця, будзе хлопчык. Маладзечанка адзначыла, што сустрэча была не толькі карысная, але і цікавая.

**Акушэры-гінеколагі, педыятры і іншыя дактары абмеркавалі разам з будучымі мамамі і татамі пытанні цяжарнасці, родаў і догляду за немаўлятамі.**

Рэспубліканскі кангрэс MamaPRO адбыўся ў Маладзечне 20 лютага. Пасля старту ў Маладзечне кангрэс пройдзе яшчэ ў васьмі гарадах.

> У якасці спікераў выступалі дактары як з Маладзечна, так і запрошаныя госці з Мінска.

Перад выступленнямі асноўных спікераў з вітальным словам выступіў намеснік міністра аховы здароўя **Вячаслаў Шыла**, акушэр-гінеколаг і дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Марына Шкроб**, галоўны акушэр-гінеколаг Мінскай вобласці **Вольга Каспяровіч**, галоўны доктар Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы **Дар'я Калядзіч**, кандыдат медыцынскіх навук **Марына Шчавелева**.

Заснавальнік праекта MamaPRO акушэр-гінеколаг **Дыяна Мардас** расказала, што ёй спадабалася маладзечанская радзільня. У ёй нават бясплатна існуе паслуга партнёрскіх родаў. А праз некалькі тыдняў планують зрабіць відэаэкскурсію па радзільні – каб будучым мамам было спакайней класціся ў месца з ужо знаёмымі сцэнамі, хай сабе і па відэа.

### Настройвайцеся на добрае

Акушэр-гінеколаг маладзечанскай жаночай кансультацыі **Вера Шалаева** распавяла пра тое, як вядуць цяжарнасць і як класціся ў радзільню.

> Як толькі вы даведаліся пра цяжарнасць, неабходна стаць на ўлік у жаночай кансультацыі.

Калі вы зробіце гэта да 12 тыдняў цяжарнасці, будзеце рэгулярна наведваць доктара і выконваць рэкамендацыі, пасля нараджэння дзіцяці атрымаеце дадатковую грашовую дапамогу. Не часта, але былі выпадкі, калі камісія вырашала адмовіць жанчынам у выплаце гэтай дапамогі.

На кожную афармляюць «Індывідуальную карту цяжарнай і парадзіхі», на рукі вам выдаюць «Абменную карту».

> Абменную карту неабходна захоўваць, каб пасля ўзяць з сабой у радзільню.

Цяжарным даводзецца прайсці шэраг дактароў і здаць нямала аналізаў. Усе яны надзвычай важныя для здароўя і мамы, і дзіцяці. Перад кожным візітам да гінеколага трэба рабіць аналіз мачы – менавіта ён дапамока доктару дакладна сачыць за станам вашага арганізма і цячэннем цяжарнасці. У доктара вам будуць мераць ціск і правяраць вагу.

Цягам цяжарнасці жанчына праходзіць тры ўльтрагукавыя даследаванні. Часам пасля іх могуць накіраваць на дадатковыя кансультацыі. Пасля 28-30 тыдняў накіроўваюць на кардыётакаграфію – менавіта там вы будзеце добра чуць сэрца будучага сына або дачкі.

Некаторыя будучыя мамы перажываюць, калі іх накіроўваюць на захаванне цяжарнасці. Доктар параіла ў такой сітуацыі настройвацца на добрае, супакойваць сябе тым, што гэта часова, што гэта магчымасць адпачыць ад бытавых клопатаў, пазнаёміцца з іншымі будучымі мамамі.

### Як рыхтавацца да родаў

Доктар акушэр-гінеколаг акушэрскага аддзялення маладзечанскай бальніцы **Вікторыя Волах** расказала пра тое, як рыхтавацца да паездкі на роды.

> Калі пачынаюцца схваткі, няпроста зразумець, калі варта ехаць у радзільню. Сучасным мамам у гэтым дапамагае дадатак на мабільны тэлефон «Лічыльнік схваткак».

Як толькі прайшло 37 тыдняў цяжарнасці, цяжарным варта зняць гель-лак. З-за манікюру з пакрыццём у радзільні дактары будуць незадаволеныя.

У маладзечанскай радзільні бясплатна існуе паслуга партнёрскіх родаў.

> Разам з парадзіхай на родах можа прысутнічаць муж, маці, сястра, але ім трэба загадзя здаць аналізы, якія сапраўдныя месяц.

Тэрапеўт дасць даведку, гэта заключэнне будзе дзейнічаць тры дні. Пры жаданні падчас партнёрскіх родаў тата дзіцяці можа перарэзаць пупавіну.

Некаторыя жанчыны цікавяцца, ці могуць рабіць кесарава сячэнне па жаданні парадзіхі. У Беларусі кесарава робяць толькі па медыцынскіх паказаннях. Гэта аперацыя, і, як любая аперацыя, яна мае асаблівасці.

Пасля родаў жанчыну пераводзяць у палату да іншых маладых мам. Пры жаданні жанчына можа папрасіцца ў платную палату. Калі маюцца свабодныя месцы, то вас пакладуць туды. У платнай палаце ёсць свой санвузел, вы будзеце адна, вас могуць наведваць сваякі.

У звычайныя палаты таксама могуць прыходзіць наведнікі, але толькі ў тым выпадку, калі не супраць іншыя жанчыны.

Ці можа жанчына нараджаць у любым медыцынскім цэнтры? Гэта пытанне цікавіць многіх будучых мам. І сапраўды, жанчына можа абраць любую ўстанову для родаў.

### Што адбываецца з немаўлятамі

Доктар-неанатолаг **Любоў Лыско** распавяла пра тое, як дактары даглядаюць за наванароджанымі.

> У радзільні за тыя некалькі першых дзён жыцця неанатолагі паспяваюць даведацца ўсю патрэбную інфармацыю пра стан дзіцяці.

# роды і спакойнае мацярынства



Акушэр-гінеколаг маладзечанскай жаночай кансультацыі Вера Шалаева.


Заснавальнік праекта МamaPRO Дыяна Мардас.



Галоўны акушэр-гінеколаг Міншчыны Вольга Каспяровіч.


Удзельнікі кангрэса.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Праводзяць скрынінг, які дазваляе праверыць слых, праводзяць аналіз на прыроджаныя захворванні, дзіця аглядае артапед.

**У першыя 12 гадзін дзіцяці робяць вакцыну супраць гепатыту В, на 3-5 суткі – супраць туберкулёзу.**

Усе прышчэпкі робяць з дазволу бацькоў. На думку доктара, іншай абароны ад гэтых хваробаў не існуе, таму вакцынацыя неабходная. Яшчэ ў радзільні праводзяць аналіз на групу крыві.

## Гіпнароды могуць дапамагчы

Магістр псіхалагічных навук **Сяргей Драбышэўскі** распавёў пра важнасць псіхалагічнай настройкі будучай мамы. Падзяліўся доследам – ён дапамагаў сваёй жонцы ў перадродавым перыядзе гіпнозам.

Адмысловы спосаб, па меркаванні псіхолага, дапамог скараціць роды. Калі звычайна яны доўжацца 10-12 гадзін, то яны справіліся за пяць з паловай.

## Міфы і праўда пра роды

Кіраўнік праекта і акушэр-гінеколаг **Дыяна Мардас** вырашыла абмеркаваць з удзельнікамі, што сярод прымхаў пра роды праўда, а што не.

**Некаторыя кажуць, што пры родах нельга піць. Але як без вадкасці працягнуць 10-12 гадзін? Таму правільна тое, што пры родах нельга піць шмат.**

Справа ў тым, што матка і мачавы пузыр размешчаныя ўшчыльную. Калі пузыр перапоўнены, дзейнасць маткі можа прынесці нязручнасці і нават траўмаваць яго. І кожную гадзіну ў час родаў варта хадзіць у прыбіральню.

Некаторыя кажуць, што жанчына падчас родаў не павінна збіраць валасы. Нібы роды пройдуць так лёгка, наколькі гладкія ў парадзіхі валасы. Медыцынскага абгрунтавання ў гэтага павер'я няма. Але дасведчаныя дактары кажуць, што калі роды ідуць лёгка – ні гумку для валасоў, нішто іншае не заўважыце. А вось калі будуць складанасці, то ўпомняць усё. І калі ў жанчын ідуць роды не вельмі лёгка, то нават дактары могуць параіць расплесці касу.

Ці можна сядзець на крэсле? Калі жанчына ў родавы перыяд роўна сядзіць, увесь цяжар ціснe на шыю дзіцяці. А шыя – вельмі кволая частка цела. Таму пасля раскрыцця шыйкі маткі на шэсць сантыметраў сядзець не варта.

**Ці можна есці шакалад? У час родаў наядацца нельга, але ў працэсе губляецца энергія. Таму кавалачак шакаладу або крыху сухафруктаў хутка яе адновяць.**

## Што кажуць удзельнікі

Падчас кангрэса з залы было шмат пытанняў. Выходзячы, будучыя мамы дзяліліся, што вельмі здорава атрымаць столькі інфармацыі пра самае хвалюючае ад дактароў за адзін дзень.

Маладзечанка **Марыя Такарэвіч** прыйшла на кангрэс па рэкамендацыі гінеколага. Жанчына адзначыла, што ўсё прайшло выдатна, даведалася шмат карыснага. Яна чакае першае дзіця, таму з будучым сынам давядзецца многае спазнаваць. Добра, што ёсць мерапрыемствы, якія рыхтуюць да гэтых перамен.


Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Хто такі Сяргей Бойка, які можа ўзначаліць аб'яднаную каманду «Маладзечна» і «Андэрдога»

**25 лютага «Прессбол» паведаміў, што аб'яднаную каманду «Маладзечна» і «Андэрдога», магчыма, узначаліць расійскі спецыяліст Сяргей Бойка.**




Фота Дзмітрыя КУЛІЦКАВА.

Бойка паспеў папрацаваць у дзесяці клубах Расіі і Арменіі.

Таксама спартыўны партал паведаміў, што аб'яднаны клуб згуляе ў першай лізе.

Сяргей Бойка нарадзіўся 14 верасня 1971 года ў Кіеве ва Украіне. Аднак вырас у Расіі, гуляў у горадзе Уладзімір. Ён выхаванец уладзімірскіх моладзевых камандаў «Матор» і «Тарпеда». Амплуа – паўабаронца.

## Гуляў у Беларусі і Расіі

У 1990-1991 гадах гуляў за лідскую каманду «Абутнік». Пасля ад 1993-га да 1997 года выступаў за расійскія клубы ў першым і другім дывізіёнах («Лада», «Носта», «Індустрыя»). За чатыры гады ў расійскім футболе адзначыўся пяццю галамі.

У 1997 годзе пераходзіць у чэмпіянат Беларусі ў «Тарпеда». Згуляў за мінскую каманду 19 гульняў і адзначыўся двума забітымі мячамі. У 1998-м выступаў за «Славію». Ад 2000 да 2003 года гуляў за аматарскія расійскія футбольныя каманды – «Падолле», «Каломна», «Обнінск», «Нара-Дзясна».

## Трэнерская кар'ера: ад аматараў у Расіі да прафесіяналаў у Арменіі

Пачаў працаваць трэнерам у 2004 годзе ў «Нара-Дзясне», за якую апошні раз гуляў падчас сваёй кар'еры футбаліста. Там ён адпрацаваў да 2006-га, а потым трэніраваў два гады «Тарпеда-РГ».

У 2009 годзе становіцца галоўным трэнерам «Хіміка», які з'яўляецца другім па велічыні клубам Ніжагародскай вобласці. Аднак у тым жа годзе сыходзіць трэніраваць «Знамя Труда» з Арэхава-Зуева. Мяркуючы па інтэрв'ю з Бойка, з заробкамі ў падмаскоўным клубе было цяжка:

– У ліпені на паядынак у Старым Асколе было 12 футбалістаў, прычым варатар выходзіў на пазіцыі абаронцы. Узімку клуб не плаціць футбалістам зарплату: у нас няма вучэбна-трэніровачных збораў. Зразумела, у пачатку чэмпіянату гульцы не натрэніраваныя. Я прыехаў і не знайшоў ні адной касеты з матчамі чэмпіянату. Ніхто нічога не здымаў! Макет у пыле, яго нават не дасталі. Фішкі і зусім адсутнічалі – свае прывёз. Многія мячы былі ў форме дыні. Новыя праз «Сатурн» даставаў. Ядзім у кафэ «Агульнахарч» на вакзале, мясцовыя – дома. Чым футбаліст займаецца ўвечары, ноччу, пракантраляваць немагчыма. Можа, ён нічога не еў учора. У нас тут і прытомнасць страчвалі на трэніроўках. Аб прафесіяналізме гаворкі не ішло.

У 2011-м працаваў з «Зенітам-Іжэўск», пра сыход з якога казаў так:

– Першая прычына – добрая гульня каманды, якую адзначалі і праціўнікі, і суддзі, але поўная адсутнасць ачкоў, што адлюстроўваецца ў турнірнай табліцы. А на наступны дзень у Іжэўску даведаўся, што за маёй спінай ужо ішлі пошукі новага галоўнага трэнера і ў горадзе ўжо знайшлі кандыдата.

У 2011 годзе таксама працаваў і з «Падоллем».

Восенню 2013-м узначальвае «Волагду», якую адвёў з апошняга месца ў турнірнай табліцы «Захад».

Варта адзначыць, што Бойка не адпрацаваў амаль ні ў адным клубе да «Іртыша» цэлы сезон.

У 2014 годзе сыходзіць у «Іртыш». За два сезоны (2014/15 і 2015/16) пад кіраўніцтвам Бойкі омская каманда правяла 48 матчаў, у якіх атрымала 19 перамог пры 17 нічыіх і 12 паразах. У сезоне-2014/15 «Іртышом» былі заваяваныя сярэбраныя медалі першынства Расіі сярод калектываў другога дывізіёна зоны «Усход».

Падчас інтэрв'ю з омскімі журналістамі распавёў пра свае трэнерскія арыенціры:

– Калі казаць аб тэарэтычнай падрыхтоўцы, то назаву дырэктара вышэйшай школы трэнераў **Андрэя Уладзіміравіча Лексакава** і **Руперта Рупертавіча Согасці**, на жаль, цяпер нябожчыка. Гэтыя два чалавекі далі мне вельмі шмат – вялікі ім дзякуй. Працаваў у Беларусі з даволі вядомым **Аляксандрам Бубновым**, **Уладзімірам Юрыным**. Як і любы іншы трэнер, я адусюль браў патроху. Калі казаць пра больш высокія матэрыі, то выклікае павагу **Жазэ Маўрыньо**. Куды ён ні прыйдзе – у любым клубе ёсць вынік. Да каго б я з'ездзіў на стажыроўку, дык гэта да Маўрыньо!

У 2017 годзе працаваў з «Мурамам», з якога сышоў з-за нездавальняючага выступлення каманды. Бойка казаў, што сыходзіць і таму, што кіраўніцтва клуба хутка вызначылася з новым кандыдатам на пасаду галоўнага трэнера.

## Гісторыя пра «Арарат»

Напрыканцы ліпеня 2019 годзе стаў трэніраваць ерэванскі «Арарат». Каманда згуляла шэсць матчаў – усе завяршыліся перамогамі.

10 верасня 2019 года ў інтэрв'ю Бойка параўнаў узровень чэмпіянату Арменіі з ФНЛ (другі па сіле, значнасці і папулярнасці дывізіён прафесійнага футбола Расіі). Таксама галоўны трэнер распавёў, што для каманды план-мінімум – трапіць у еўракубкі, а максімум – стаць чэмпіёнамі Арменіі.

16 верасня 2019-га прэс-служба «Арарата» заявіла, што Сяргей Бойка падаў у адстаўку. Рашэнне прынялі па ўзаемнай згодзе: Бойка напісаў заяву, якую прыняло кіраўніцтва клуба.

## Вышэйшая школа трэнераў, стажыроўкі ў Іспаніі і Расіі

Сяргей Бойка скончыў з адзнакай Вышэйшую школу трэнераў (ВШТ) у 2006 годзе. У 2009 годзе прайшоў курсы па ліцэнзаванні трэнераў пад эгідай УЕФА. У 2010-м прайшоў курсы павышэння трэнерскага майстэрства пры РФС і ВШТ у Маскве. Мае ліцэнзію трэнера UEFA PRO.

Праходзіў стажыроўку ў мадрыдскім «Рэале», «Рэале Сасьедад» і ЦСКА:

– Усе гэтыя клубы розныя накіраванасці, і адпаведна ў іх адрозніваюцца задачы. У Сан-Себасцьяне правёў дзевяць дзён, поўны тыднёвы цыкл з двума гульнямі чэмпіянату. Больш за ўсё здзівіла і парадавала інфраструктура. Зразумела, што «Рэал Сасьедад» не адносіцца да грандаў еўрапейскага футбола, але тым не менш у іх на базе сем палёў рознага памеру і пакрыцця. Там жа ёсць стадыёнчык з трыбунай на тры тысячы гледачоў, дзе праводзяцца кантрольныя матчы. Шмат спецыялізаваных памяшканняў для тэставання футбалістаў.

У мадрыдскім «Рэале» усё зусім інакш. Гэта гранд сусветнага футбола – пафасу там больш чым дастаткова. Няма ніякай мітусні: кожны работнік клуба ў любой галіне займаецца сваёй справай, няхай гэта будзе клубны музей, магазін атрыбутыкі або спартыўная школа. Усе разумеюць, дзе яны працуюць, і гэтая самавітасць адчуваецца з першага кроку.

Сяргей Бойка праходзіў стажыроўку ў ЦСКА, калі каманду трэніраваў **Леанід Слуцкі**. Бойка кажа пра Слуцкага шмат прыемнага:

– ЦСКА – гранд расійскага футбола. На мой погляд, у гэтым клубе працуе наймацнейшы расійскі трэнер Леанід Слуцкі, з якім мы знаёмыя. У яго ёсць чаму павучыцца, у тым ліку і ў плане адносін з футбалістамі.

Бойка тлумачыў некалькі гадоў, што для яго вельмі важнае меркаванне заўзятараў, казаў, што каментары ў інтэрнэце не чытае.

У 2017 годзе Сяргей Бойка так казаў пра сваё футбольнае жыццё:

– А як ад футбола адпачнеш? Нават калі здараюцца гадзіны спакою, то ўсё роўна глядзіш тэлетрансляцыі, тэлефануеш сябрам і знаёмым – даведацца, як згулялі… Ад футбола нікуды не сыдзеш! Гэта ўжо не праца, а само жыццё.

**Настасся УТКІНА.**



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Ларыса Геніюш: «Засумавала ўсё, што сэрцу блізка, вятры іначай, жаласна гудуць. Мову маю, быццам дзіця з …, бы маці родную, прадчасна ў дол кладуць».
5. Увоз у якую-небудзь краіну тавараў з-за мяжы.
6. Дзеянне казкі «Чароўны гарбуз» адбываецца ў Лаосе. У ёй выдатны спадар Е лечыць ад хваробаў, бясплоддзя і іншага. Якое слова ў пытанні замянілі на слова «спадар»?
7. Вуліца ў Вілейцы, на якой размешчаная крама ТДА «Вілшкло», якім кіруе бард Алесь Наркевіч.
8. Дастатак, матэрыяльная забяспечанасць.
11. Старажытны матэрыял для посуду.
14. Дарога, якая злучае важныя аб’екты, населеныя пункты.
15. У гэту гульню гуляў галоўны герой твора Караткевіча «Ладдзя Роспачы».
17. Публічнае паведамленне на пэўную тэму.
18. Першы брытанскі дамініён.
20. Скульптура, якой язычнікі пакланяліся як бажаству.
23. Пісьменнік і багаслоў Сімяон Полацкі апісваў іх рэцэпт, а называлі іх жалезнымі. Для вытворчасці патрабаваліся круглыя нарасты на дубовых лістах, якія настойвалі ў квасе або воцаце, у раствор дадавалі жалезныя апілкі і вішнёвую смалу.
25. Сталіцу гэтай краіны Ніневію празвалі логавішчам ільвоў, таму што вароты горада ўпрыгожвалі ільвы.
26. Старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Прыстасаваная для язды і хадзьбы паласа зямлі.
2. Горад, у якім ладзяць сусветны эканамічны форум.
4. Што называюць душой іслама?
7. Менавіта яна дазваляе найбольш рацыянальна арганізаваць вытворчасць.
9. Пасудзіна асобай будовы, якая засцерагае змешчанае ў ёй ад астывання або награвання.
10. Колькасць чаго-небудзь, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі.
11. Дакладны каляндарны час падзеі.
12. Гангстэрскія аб’яднанні ў ЗША.
13. Назва горада ў цэнтры пустыні Кызылкум, які стаў вядомы дзякуючы песні гурта «Ялла». У перакладзе гэта значыць «тры калодзежы».
14. Шчыт са светлавымі сігналамі або надпісамі.
16. Тое, куды няма доступу іншым; самае запаветнае, патаемнае месца.
19. Назва мэблевага магазіна ў Маладзечне на вуліцы Францыска Скарыны.
21. Сталовая пасуда круглай формы з шырокім дном і прыўзнятымі краямі.
22. Частка цэлага, падрабязнасць, факт, штрых.
24. Скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў; прыняцце ўяўнага за сапраўднае.

## Адказы на крыжаванку з №8

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Юнга. 4. Жаніх. 5. Дагавор. 6. Эгаізм. 9. Аварыя. 10. Галіна. 12. Нешта. 14. Дабрабыт. 16. Глобус. 17. Жэст. 18. Экватар. 20. Настрой. 21. Газета. 22. Малюнак. 25. Жакей.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Ачаг. 3. Гаворка. 7. Афіцэр. 8. Гімн. 11. Атрута. 13. Ашчадна. 15. Дазор. 17. Жывапіс. 19. Начлег. 20. Нядзеля. 22. Мілы. 23. Дошка. 24. Нота.



● ГАРАСКОП НА 28 ЛЮТАГА-5 САКАВІКА

## Гараскоп вашай жаноцкасці

**АВЕН.** Пад гэтым знакам нараджаюцца амазонкі, якім хапае смеласці браць ад жыцця ўсё, што ім трэба. Яны палююць за тымі дабротамі, якія хочуць. Гатовыя ваяваць за сваё шчасце. Магчыма, дзякуючы гэтаму імі і захапляюцца, і крыху пабойваюцца.

**ЦЯЛЕЦ.** Гэта жанчыны, якія самымі нечаканымі спосабамі, але заўсёды дамагаюцца свайго. Яны любяць, каб дзеля іх ішлі на ахвяры. А ў залежнасці ад свайго жадання могуць зладзіць або рай, або пекла.

**БЛІЗНЯТЫ.** Часам здаецца, што вы ніколі не станеце дарослай. Нават пры самай сур’ёзнай працы і вялікай сям’і ў душы гарыць агеньчык бунтарства. Вы любіце гульні. Але разам з тым поўныя рамантычнасці.

**РАК.** Складана ўявіць больш жаноцкасці. Пачуццёвасць, інтуіцыя і ўменне клапаціцца – усё гэта дазваляе іншым атрымаць ад вас усё, пра што б ні марылі, і стварае вакол непараўнальную магію.

**ЛЕЎ.** У вас каралеўская жаноцкасць, якая робіць вас гаспадыняй. Вы валодаеце мноствам пераваг і выдатных якасцяў. Каб вам дагадзіць, варта часцей хваліць, вы гэта любіце. Для вас важна быць ва ўсім лепшай, і ўдаецца гэта без напружання.

**ДЗЕВА.** Ваша суперсіла – у мудрасці. Нямногія могуць так разважаць і ў стольнікім дапамагаць іншым. Назіральнасць, выдатная памяць, аналітычнае мысленне дазваляюць вам рабіць слушны выбар і быць лепшым дарадцам.

**ШАЛІ.** У вас кволы тып жаноцкасці. Такіх жанчын хочацца аберагаць ад усяго кепскага. Вы яркая і ўражлівая асоба, з якой заўсёды прыемна. А самыя дарагія людзі змогуць трапіць у ваш чароўны свет.

**СКАРПІЁН.** У сабе вы адначасова спалучаеце ўсе самыя прыцягальныя рысы. Вы неверагодна каварныя і разам з тым чароўныя. Ад такой непараўнальнай прыцягальнасці немагчыма не згубіць галавы.

**СТРАЛЕЦ.** Вы можаце быць любой, якой захочаце. А хочаце вы таго, што вам выгадна або карысна. І тут вас ужо не спыніць і не перамагчы.

**КАЗЯРОГ.** Гэта жанчыны, пра якіх мараць паэты. Муза – гэта пра вас. Вамі хочацца захапляцца, а дзеля ўсмешкі іншыя гатовы ісці на многае. Вось толькі самі вы не жывяце ў свеце фантазій, і здольныя цалкам пра сябе клапаціцца.

**ВАДАЛЕЙ.** Ваша жаноцкасць розная. Сёння вы адна, а заўтра – зусім іншая. Вам важна адчуваць жыццё, заўсёды быць у руху. З вамі ніколі не сумна – і міма гэтай якасці не пройдзеш.

**РЫБЫ.** Вы можаце быць рознай. Лепш за іншых прыкідваецеся тым, кім не з’яўляецеся. Ваша жаноцкасць клапатлівая і чароўная, і вы зробіце ўсё для тых, каго любіце.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | | | 8 | 3 | 4 | | |
| | 7 | | 9 | 2 | | | | |
| | 6 | 8 | | | | 3 | | |
| | 9 | 3 | 4 | 7 | | | | |
| | 5 | | | | | 7 | 9 | |
| | | 7 | | 3 | | | | 6 |
| 1 | | | | | 2 | 5 | | |
| | | 2 | | 4 | 1 | | | |
| | | 6 | 8 | | 5 | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

